# К КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 21 (283) 31 мая — 6 чэрвеня 1997 г. КОШТ 2000 РУБЛЁЎ

ДЫСКУТУЕ•ПРЭЗЕНТУЕ•РАЗВАЖАЕ





## "НЕ, ГЭТА НЕ РЫО-ДЭ-ЖАНЕЙРА," — СКАЗАЎ ЁН... І, ПЭЎНА, МЕЎ РАЦЫЮ.

*Кагосьці раздражняе, а кагосьці, наадварот, усцешвае тое, што Мінск апошнім часам падобны да вялікай будаўнічай пляцоўкі: там кладуць брук або асфальтуюць дарогу, тут пілуюць саракагадовыя дрэвы, але яны не такія ўжо старадаўнія, каб камусьці нарабіць шкоды, як, да прыкладу, вынішчылі іх пад вокнамі рэдакцыі нашай газеты... Фарбуюць фасады, укладваюць трамвайныя рэйкі, прыпыняючы транспартны рух. Словам, горад "чысціць пёркі" перад сваім 930-гадовым днём нараджэння. Нібыта ўсё выдатна, і мы, мінчукі, разумеем пэўныя нязручныя моманты, бо ведаем: праз месяц і некалькі дзён — 4 і 5 ліпеня — нас чакае Відовішча, у якім мы ўсе возьмем удзел з вялікай радасцю.*

*Аднак, калі трыбуны і транспаранты, сцягі і афішы будуць у прызначаны час на сваіх вызначаных месцах, дык з самім святочным дзействам, як высветлілася, далёка не ўсё ладзіцца. Пра гэта мы даведаліся з візіту ў рэдакцыю. Прыйшлі да нас дырэктар свята горада "Мінск-97", ён жа і дырэктар творчых майстэрняў эстрады пры Саюзе музычных дзеячаў — Павел Кандрацюк і Вячаслаў Панін, галоўны рэжысёр свята, а таксама мастацкі кіраўнік курса артыстаў эстрады Беларускага універсітэта культуры. Рэпліка Паўла Яўгенавіча: "Калі прэзідэнт не дасць грошай, горад не здолее правесці свята", — адразу насцярожыла. І далей з яго ж вуснаў: "Я быў учора ў Фрунзенскім раёне. Яны робяць там эпізод "Наша будучыня". Я сказаў "галаве" раённай адміністрацыі: "Не можа нашая будучыня быць жабрацкай. Таму не пашкадуйце для сваёй калоны лішніх 20 мільёнаў на касцюмы. Як толькі мы выйдзем на сцэну гэтай вялізнай плошчы, дзе будуць і госці з усяго свету, і кіраўнікі дзяржавы, і яе народ, і пакажам гаротную калону Фрунзенскага раёна, якая нібыта адлюстроўвае нашую будучыню, гэта будзе такі палітычны ляпсус!.. Але пакуль нічога не вырашылася, а час ідзе..."*

(Працяг на стар. 2—3)

## 1 чэрвеня — Міжнародны дзень абароны дзяцей



Чытайце і выпісвайце "Культуру", і яна стане Вашай надзейнай спадарожніцай, сяброўкай і дарадчыцай у імклівым віры жыцця!

Падпісны індэкс "Культуры" — 63875, кошт на месяц — 8 тысяч рублёў, на тры месяцы — 24 тысячы рублёў.

•

**Я чытаю і выпісваю "К"!**

№ 21 31 мая — 6 чэрвеня 1997 г.

РЭПАРЦЁРСКІ МАРАФОН

# "НЕ, ГЭТА НЕ РЫО-ДЭ-ЖАНЕЙРА", — СКАЗАЎ ЁН... І, ПЭЎНА, МЕЎ РАЦЫЮ.

## ЯКІ КАШТАРЫС — ТАКІ І КАРНАВАЛ

***І вось гаворка, што адбылася крыху больш за месяц да таго, як павінны прагучаць фанфары адкрыцця свята. Мой суразмоўца — рэжысёр Вячаслаў ПАНІН.***

**— На сённяшні дзень на пастановачныя работы, на аплату працы рэжысёра, акцёраў, на стварэнне пэўных мастацка-афарміцельскіх момантаў свята ці выдаткаваныя хоць нейкія грошы?**

— Яны, гэтыя грошы, так бы мовіць, маюцца на ўвазе. Яны ёсць толькі на паперы, у каштарысе. Але больш іх нідзе няма. Я магу сказаць, што на мастацка-пастановачныя выдаткі па ўсім свяце, а гэта дзесяць эпізодаў і трынаццаць сцэнічных пляцовак, павінна было выдаткоўвацца каля 600 мільёнаў рублёў. Для таго, каб зрабіць свята маляўнічым, яркім, гэтага, безумоўна, вельмі мала. А ўвогуле на падрыхтоўку, мастацкую пастаноўку і правядзенне свята Упраўленню культуры было запланавана каля 5 мільярдаў рублёў. Я не ведаю, ці так гэта, але перадаю тое, што чуў. Ідзе падрыхтоўка да 850-годдзя Масквы. І там ужо два гады таму адзін з намеснікаў Лужкова быў вызвалены ад асноўных абавязкаў у мэрыі і займаўся толькі маючым адбыцца святам Масквы. На сённяшні дзень фігуруе лічба 225 мільярдаў расійскіх рублёў, я не ведаю дакладна — на што. Магчыма, і на добраўпарадкаванне вуліц у тым ліку, але ўсё гэта ідзе на свята горада. Нам і адной дваццаць пятай часткі ад такой сумы не ўбачыць ніколі. Хаця я павінен сказаць, што Беларусь з пункта гледжання ўзроўню святочнай культуры, арганізацыі святаў, бадай, заўсёды была наперадзе планеты ўсёй. Мы нядаўна паглядзелі фільм, дзе зафіксавана буйное свята горада Масквы. Што можна адзначыць? Грошы. Усе калектывы муніцыпальных акругаў апранутыя ў новыя строі, зроблены цікавыя муляжы, дэкарацыі...

**— А пра якія касцюмы можа весціся гаворка ў нас?**

— Магчыма, міністр культуры вырашыць пытанне, каб нам далі тэатральныя касцюмы бясплатна. Так, самадзейная студыя іх дасць, але тыя, якімі нельга карыстацца. А тыя касцюмы, у якіх можна выйсці і паказаць эпоху, не дадуць, бо яны — эксклюзіўныя. Аўтарскія творы не даюцца ніколі і нікому ні за якія грошы!

**— Колькі каштуе, на Ваш погляд, свята?**

— Звычайна я на падобнае пытанне адказваю пытаннем: а колькі ў Вас ёсць грошай? Бо касцюм можа быць за сто рублёў, за пяць тысяч і, наогул, з чыстага золата. Гэта ўсё будуць касцюмы. Так што фінансавы бок масавага відовішча стаіць вастрэй за любы іншы від мастацтва, бо гэтая акцыя — аднаразовая.

**— Распаўсюджанае меркаванне: а навошта тое свята, калі дзіркі няма чым латаць — ці то ў бюджэце, ці то ва ўласных кішэнях...**

— Гэта, пэўна, голас з народа, як кажуць. А вось голас бюракрата: як бы так зрабіць, каб афармленне гэтага свята можна было б выкарыстаць у будучым? Я яго разумею, у яго грошы і ён іх лічыць. Але так ставіць пытанне нельга. Або трэба падыходзіць да свята, як да карнавалу ў Рыо-дэ-Жанейра. Гэта унікальная з'ява ў свеце! Школа самба мае свае касцюмы і захоўвае іх дзесяцігоддзямі ад карнавалу да карнавалу. Або як да Венецыянскага карнавалу? Ён мае зусім іншыя традыцыі: ствараецца эксклюзіў, які пасля закрыцця свята знішчаецца. І ўсё паўтараецца наноў...

**— Я разумею, спадар Вячаслаў, што Мінск пакуль — не Рыо-дэ-Жанейра, і разам з тым...**

— І разам з тым, цяпер ужо традыцыйнае свята горада — гэта твар культуры Мінска. Чаму? Горш або лепш, але яно праходзіць штогод, а не толькі ў юбілейныя даты, як у большасці гарадоў іншых краін. А ў Мінску гэта стала традыцыяй, і трэба аддаць належнае гарадскім уладам.

**— Больш канкрэтна, што сёлета чакае мінчан на гэтым свяце, што яно з сябе будзе ўяўляць?**

— Паколькі дата — 930 гадоў — скажу так, усё ж круглая, дык і афарбоўка свята — гістарычная: Мінск ва ўсе часы, пачынаючы ад згадкі ў "Слове пра паход Ігаравы". Аднак у агульную канцэпцыю я заклаў такую ідэю: сталіца мае правa на гісторыю ўсёй дзяржавы; у гістарычнай панараме, напрыклад, будуць і эпізоды: Мінск — Вялікае княства Літоўскае і Магдэбургскае права; Мінск дарэвалюцыйны, пасляваенны і г.д. Вядома, дастаткова схематычна, бо ўсю 930-гадовую гісторыю не пакажаш, але можна прэзентаваць відовішча, заснаванае на гістарычных фактах. Дадам, што кожным эпізодам займаецца канкрэтны раён горада і канкрэтны рэжысёр. Спачатку рэжысёры ў сілу прафесійных напрацовак, штампаў выдалі мне дэманстрацыю ў якасці аднаго з элементаў свята: калоны са сцягамі і г.д. Давялося стэрэатыпы разбураць. На сённяшні дзень свята горада выглядае як вялікая музычная імпрэза з элементамі гумару, мюзікла... Другая наша мэта — знаёмства жыхароў Мінска з... Мінскам. Справа ў тым, што часам мінчукі, жывучы ў сваім "спальным" раёне, не маюць амаль ніякага ўяўлення пра горад у цэлым...

**— Цікава, а якімі сродкамі магчыма гэта зрабіць на свяце?**

— А мы разгорнем на праспекце Скарыны ад Галоўпаштамта да ГУМа так званую гарадскую панараму. Кожнаму раёну аддаецца каля 250 метраў, дзе будзе размешчана невялікая выстава дасягненняў раённай гаспадаркі. Выстаўляецца ўсё: гандаль, творчасць, прамысловасць, цырульні. Словам, ВДНГ на праспекце...

**— Другі наш праспект — Машэрава — чым ён будзе адметны? І крышку — пра астатняе...**

— А на праспекце Машэрава будзе працаваць традыцыйны кірмаш "Смага-97". Далей. Мы вырашылі: дзеці маюць сваё свята, моладзь — сваё: у скверы Янкі Купалы канцэнтруецца ўсё, што любяць маладыя, і гэтае "ўсё" яны сабе там наладжваюць, а цэнтральная падзея — шоу "Песнярок". Гэта выкананне сучаснымі маладзёжнымі рокавымі гуртамі рэпертуару "Песняроў". Дарэчы, фэст завершыцца выступленнем саміх "Песняроў". А ў парку імя Горкага распачнецца свята пад назвай "Дзяды і ўнукі"; конкурс прыгажунь адбудзецца каля кінатэатра "Масква". На наступны дзень, 5 ліпеня, спартыўныя мерапрыемствы ахопяць увесь Мінск. А ў поўдзень у кожным мікрараёне горада пачнуцца свае святочныя мерапрыемствы. Завершыцца свята горада воднай феерыяй, своеасаблівым карнавалам на вадзе. Тут будзе ўсё! Нават прыдуманы рабочы тэрмін: "Мастацкая эклектыка". Асобна хацеў бы сказаць пра "Арт-панараму Мінск—930". Усе лепшыя вядучыя калектывы з гадзіны дня да сямі вечара будуць выступаць на Кастрычніцкай плошчы. Відовішча будуецца па блоках, напрыклад, "Мінск тэатральны", "Мінск эстрадны", "Мінск музычны" і г.д. А завяршыцца а дзевятай гадзіне вечара канцэртам зорак эстрады, якія выступяць пад аркестр Міхаіла Фінберга...

## ЯК ГОЛЫЯ НА ВУЛІЦЫ?

**— Я разумею, што ўсё пералічыць немагчыма, а перадаваць экспрэсію відовішча словамі ўвогуле не мае сэнсу... Ведаю, што вам даводзілася рэжысіраваць не адно свята. Той жа Навагрудак узяць... Дык вось, якая агульная праблема такіх глабальных мерапрыемстваў?**

— Раней пры камуністах было вельмі лёгка ладзіць масавыя святы. Тады даваўся загад, арганізатары збіраліся ў ЦК, ат-

**...Калі ветэраны партызанскага руху ўпершыню звярнуліся ў Пінскі гарвыканкам з прапановай пабудаваць помнік партызанам, мы яшчэ жылі ў СССР і тэмп жыцця быў нетаропкі. Прынцыпова ніхто прапанову не адхіляў; нават, каб не звяртацца па дапамогу ў "цэнтр" — у сталіцу рэспублікі, вырашылі абмежавацца сціплымі магчымасцямі вобласці. Так з'явіўся першы і на той час адзіны праект помніка, створаны адным з брэсцкіх скульптараў. Аднак праект не прайшоў экспертызы адпаведнага савета Міністэрства культуры і ..."закруцілася кола". Быў праведзены конкурс на атрыманне заказу, да ўдзелу ў якім запрасілі на гэты раз спрактыкаваных спецыялістаў мінскай групы скульптараў і архітэктараў. Перамог праект Анатоля Бачкарова і Мікалая Волкава. Заказчык — Пінскі гарвыканкам — не спрачаўся, нават ахвотна падтрымаў вызначаны праект. Але наступілі часы сацыяльна-эканамічных рэфармаванняў, сродкаў на помнік не знайшлося, справу адклалі. Невядома, ці не растварылася б ідэя ўвогуле сярод мноства цяжкасцяў новых часоў, ды ветэраны праявілі настойлівасць, разумеўшы, відаць, што апрача іх ніхто справу не зробіць, час ідзе, відавочцаў слаўных подзвігаў народных мсціўцаў меншае і памяць аб іх застаецца галоўным чынам толькі ў лапідарных радках падручнікаў па гісторыі. Таму пытанне аб узвядзенні помніка паўстала зноў і ўжо на самым вышэйшым узроўні, куды звярнуліся ветэраны. На гэты раз "кола закруцілася" нечакана хутка. Аднак зацверджаны праект заказчык — Пінскі гарвыканкам у новым складзе — адхіліў, бо скульптар Бачкароў памёр. Замест яго нечакана з'явіўся другі праект, а потым — і трэці, ажыятаж падагравалі і сродкі масавай інфармацыі. Канфлікт быў відавочны, таму 14 траўня адбылася выязная калегія Міністэрства культуры ў Пінску з мэтай пошуку "кансэнсусу". Аб выніках яе распавядае галоўны спецыяліст аддзела музеяў і выставаў міністэрства, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Уладзімір УРОДНІЧ:**

# "...ЗРЭШТЫ, МЫ СТАВІМ

— У свой час праца над зацверджаным праектам прыпынілася на этапе эскізнага праектавання з-за нястачы сродкаў. Нарэшце ініцыятары ідэі, група ветэранаў партызанскага руху на чале з Эдуардам Баляслававічам Нордманам і Уладзіславам Іосіфавічам Базакоўскім, знайшлі дзе адшукаць сродкі, некалькі месяцаў таму быў атрыманы дазвол на адкрыццё адпаведнага рахунка, улады таксама абяцалі падтрымку. Але замест зацверджанага праекта Бачкарова — Волкава вырашылі ўзвесці іншы, скульптара Паўла Цомпеля. Гэты праект у свой час рыхтаваўся для Жыткавічаў, аднак не быў рэалізаваны таксама з-за нястачы грошай. Між тым праект Бачкарова пасля смерці аўтара згадзіўся дапрацаваць яго сябар Віктар Мурашоў.

Па-чалавечаму я разумею ўчынак Цомпеля, у наш час кожны аўтар шукае любыя магчымасці рэалізаваць свае творы, хаця, на маю думку, гэты крок быў бы пэўным парушэннем прафесійнай этыкі. Але ж здарылася яшчэ бяда, Павел Цомпель нядаўна таксама пайшоў з жыцця, і Пінскі гарвыканкам, каб як мага хутчэй вырашыць справу, успомніў пра самы першы праект брэстаўчаніна Аляксея Паўлючука. На думку спецыялістаў экспертнай камісіі, у склад якой уваходзілі архітэктар Юрый Градаў, лаўрэат Ленінскай прэміі, скульптары Іван Місько — лаўрэат Дзяржпрэміі СССР, Уладзімір Лятун — лаўрэат Дзяржпрэміі Беларусі, Аляксандр Фінскі і я, праект Паўлючука не вытрымлівае сур'ёзнай крытыкі. У Пінску нам прыйшлося шукаць кампраміснае рашэнне ў досыць цяжкіх умовах, бо кожны бок — ветэраны-партызаны, гарвыканкам і міністэрства — меў уласны пункт гледжання. Гарвыканкам, кіраўніцтва якога змянілася, не лічыць сябе абавязаным прытрымлівацца раней прынятых дамоўленасцяў. Ветэраны не надта звяртаюць увагу на мастацкія каштоўнасці помніка. Міністэрства вымушана мяняць сваё ж, раней прынятае і правільнае рашэнне. На маю думку, мастацкія каштоўнасці твора ні ў якім разе не залежаць ад таго, колькі чалавек прыняло ўдзел у яго абмеркаванні. Часам, калі помнік ствараецца не ў якасці гістарычнай ілюстрацыі па канонах сацыялістычнага рэалізму, а ў формах, адпаведных часу і менталітэту сучаснага грамадства, ягоная каштоўнасць — і гістарычная, і мастацкая, і грамадзянская — толькі павялічваецца...

Сумеснымі намаганнямі мы прыйшлі да высновы, што трэба патраціць яшчэ паўтара-два месяцы, але знайсці рашэнне, вартае ідэі. Таму мы праводзім новы бліц-конкурс на лепшы праект. Магчыма, гэты помнік будзе адным з апошніх такога кшталту, і хацелася б, каб праявілі сябе лепшыя назапашаныя творчыя сілы. У рэшце рэшт, мы ставім не тэлеграфныя слупы..."

*Вытрымка з праграмы і ўмовы адкрытага рэспубліканскага бліц-конкурсу на лепшы праект помніка ў г.Пінску партызанскаму руху Палесся ў гады Вялікай Айчыннай вайны:*

*"...Перад удзельнікамі конкурсу ставіцца мэта сродкамі*

рымлівалі канкрэтнае заданне і ўсё рабілася. Сёння ж вельмі цяжка аддаць каму-небудзь распараджэнне. З аднаго боку, гэта выдатна — свабода! Але на змену былому не прыйшлі рынкавыя адносіны ў гэтым пытанні. І вось вам найпершая праблема. Рынак. У якім сэнсе? Расцэнкі ў нас засталіся ранейшымі. Дыктат расцэнак, хоць там ёсць прыпіска: "... і дагаварныя". Але калі правяральшчыкі з КРУ пачынаюць правяраць, дык адразу задаюць пытанне, маўляў, што такое "дагаварныя"? Павінны быць канкрэтныя расцэнкі і ўсё тут! І вось самы страшны бізун для ўсіх нас — гэта КРУ, якое трактуе так, як ім выгадна, што хочуць, тое і гавораць. Так, у гэтым ведамстве працуюць эканамісты, фінансісты, але юрыдычна яны не адукаваныя. Дык перш за ўсё трэба даказаць, што той або іншы з нас парушыў закон, а да таго часу дзейнічае закон прэзумпцыі невінаватасці. А я чуў такое, маўляў, вы дамаўляйцеся на пэўныя дагаварныя расцэнкі, вядома ж, вам потым адсцёгваюць грошы. Словам, галаслоўныя абвінавачванні, якія не падмацоўваюцца ніякімі аргументамі, а толькі зневажаюць. Карацей, самая асноўная бяда ў тым, што старая сістэма разбурана, а новая не створана...

**— Дык што, вам, як творцы, нестае менавіта старой цэкоўскай сістэмы ў сённяшнім часе?**

— А ў старой сістэме было вельмі шмат добрага. Дапусцім, пастановачныя адзінкі для творчых работнікаў. Цяпер я, напрыклад, атрымліваю проста звычайную штомесячную зарплату — чатыры месяцы працую як рэжысёр-пастаноўшчык і атрымліваю чатыры зарплаты. У такіх выпадках я кажу: вядома, я не Эйнштэйн, але $E=mc^2$ — гэта адзінае, што Эйнштэйн вынайшаў, а на гэтую тэму ўжо людзі сто тысяч тамоў напісалі. Дык што больш каштоўнае, тое, што яны напісалі, ці гэты адзін радок? Так і тут: за ідэю трэба плаціць, а не за гадзіны. А ў нас ідэі нічога не каштуюць. Ідэі могуць узяць у цябе і проста скарыстаць...

**— А хіба аўтарскімі правамі ідэя не абаронена?**

— Так, калі вы яе зарэгістравалі: напрыклад, напісалі сцэнарый, аднеслі ў ВААП, там гэта зафіксавалі, і тады вы можаце прад'яўляць прэтэнзіі, калі вашу ідэю хтосьці скарыстаў. Па-другое, рэжысёр не адносіцца да катэгорыі творцаў, на якіх распаўсюджваецца аўтарскае права, як ні дзіўна, ён не ўнесены ў міжнародную канвенцыю.

**— Сапраўды дзіўна...**

— Увогуле, ні тэатральны рэжысёр, ні іншы. Лічыцца, што рэжысура — праца не аўтарская, а нейкая другасная. Але, праўда, у нас часта супадае рэжысёрства з аўтарствам: чалавек, які ставіць, як правіла, сам піша і сцэнарыі. І тут таксама шмат розных падыходаў. Асабліва "выдатны" падыход у бухгалтэрыі. Яны гавораць: "а вы дакажыце, што гэта аўтарская работа, тады мы будзем вам як аўтару аплочваць". Глупства, ці не так? Дык вы самі дакажыце, спадары бухгалтары, што гэта не аўтарская работа. Не, паперку прад'явіце, гавораць, урэшце, як хочаце, так і даказвайце, што гэта ваш аўтарскі твор.

**— Дык што, і мастаку, які напісаў карціну, паперка патрэбна?**

— Так-так, і яму таксама. Гэта проста бязглуздзіца на ўзроўні бухгалтараў. Словам, гэтае пытанне аддадзена на сумленне людзям, якія сапраўды "профі" ў сваёй справе: добра ведаюць фінансавую сістэму, ведаюць законы падаткаабкладання, выкарыстання менавіта дзяржаўных бюджэтных сродкаў. І яны заціснуты ў пэўныя рамкі, гэта зразумела. Але як нам быць? Бухгалтараў б'юць за тое, што яны грошы бюджэтныя не эканомна выдаткоўваюць, а людзі, якія працуюць, хочуць, каб з імі нармальна расплаціліся. І гэта лагічна.

**— А ці былі выпадкі, калі вы асабіста не здолелі, скажам так, "купіць" інтэлект, вопыт пэўнага рэжысёра, акцёра, бо прапанаваная грашовая планка стаяла значна ніжэй, чым гэты творца сам сябе ацэньваў?**

— Не было такога ніколі. Я зараз скажу чаму. Мы тут усе, хто ставарае масавыя відовішчы, настолькі "павязаны", гэта наша праца, наш хлеб, сродкі існавання. Таму хочам мы ці не хочам — усё роўна пагаджаемся. А былі ў нас і такія выпадкі ў практыцы, калі пастановачная група атрымлівала суму ў два-тры разы ніжэйшую, чым нам напачатку абяцалі. Так што з пункта гледжання юрыдычных нормаў, законаў, творчая адзінка не мае фактычна ніякіх правоў. Я зараз — не пра тое, што міліцыя на вуліцы можа проста спыніць чалавека, арыштаваць, схапіць і павезці ў каталажку без усялякіх тлумачэнняў. Але творчы чалавек увогуле не абаронены! Як бюракрат скажа, так і будзе. А не абаронены творца яшчэ з-за таго, што не мае рынку попыту. Калі на "праклятым Захадзе" хтосьці адзін не купіў маю прадукцыю — прадам камусьці іншаму. А ў нас толькі адзін заказчык — дзяржава. Усё! Калі я, рэжысёр, ёй не прадам сваю інтэлектуальную працу, дык ніхто ў мяне яе больш не купіць. Былі ў нас гадоў пяць таму іншыя прыклады, распачыналі прыватныя фірмы прэзентацыі, нейкія святы рабіць...

**— І што, гэта быў для вас час узлёту, "залаты час"?..**

— Не, я пра іншае. Мы тады з маім калегам Паўлам Кандрацюком правільна зрабілі. Мы не кінуліся на ўсё гэта, а працягвалі працаваць з дзяржавай, як з асноўным, сталым і традыцыйным, няхай сабе не такім шчодрым, але заказчыкам. І вось мы засталіся, мы працуем...

**— Такім чынам, вы захавалі пэўную сістэму і сябе ў ёй?**

— Менавіта. Вось мы — творчая майстэрня эстрады, і мы сем гадоў існуем. А тых, хто ў свой час быў сабраны побач з намі, цяпер няма ў рэспубліцы. "Нахапаліся" і паехалі...

**— Словам, праблема ляжыць, як кажуць, на паверхні...**

— Паўтаруся: мы вымушаны ісці на ўмовы, якія дыктуе дзяржава. Давайце пройдземся проста па лічбах. Вось у былыя часы, калі былі стабільныя расцэнкі, пры акладзе ў 200 рублёў рэжысёрскіх я за сцэнарый атрымліваў 1000, а зрэдку і 1500 рублёў. Па тых часах — гэта былі грошы. Сёння пры акладзе ў два мільёны — за сцэнарый я атрымліваю пяць мільёнаў. Вось вам і арыфметыка: творчы сцэнарый каштуе цяпер два з паловай аклада, а ў мінулыя гады — пяць. Я не пра тое — кепска ці добра нам плоцяць. А вось пра што: калі заўтра яшчэ менш будзе, мы нічога не зможам зрабіць, а значыць пагодзімся і на гэта, бо акрамя заказчыка мы нікому не патрэбныя.

**— Словам, тое, што вы расказалі ў кантэксце правядзення свята Мінска, не з'яўляецца вузкай праблемай дадзенага мерапрыемства...**

— Безумоўна, гэта не праблема самога Мінска і не праблема дадзенага свята. Гэта праблема ўсёй структуры культуры нашай дзяржавы. Але неабароненасць творчай асобы — найгалоўнейшае пытанне. Мы як голыя на вуліцы... І нават чыноўнікі гэта разумеюць. Нездарма ж прэзідэнт даў распараджэнне Міністэрству культуры распрацаваць новую сістэму аплаты. І гэта не проста так: праблема выспела. Мы ж чакаем рашэння як паратунку. Бо нельга ж рэжысёру памесячна плаціць за ягоныя мазгі. Нельга! Ідэя можа нарадзіцца за секунду, а можа за пяць гадоў... Не магу, вядома, не сказаць пра маленечкі крок наперад з боку гарадскіх уладаў. Мінскі гарвыканкам павінен прыняць рашэнне па аплаце творчай працы на свяце горада. Спадзяемся на прагрэс у параўнанні з тым, што існуе...

**Людміла КРУШЫНСКАЯ**

**P.S.** Сёння, калі вярстаўся нумар, нам стала вядома, што Мінгарвыканкам прыняў распрацаваны Упраўленнем культуры горада дакумент, які стаў першай вяхой на шляху паляпшэння аплаты працы творцы. І гэта сімвалічна!

**Л.К.**



# І "БРАВА!" КРЫЧАЛА ВАРШАВА

Сустрэчы... Сустрэчы... Сустрэчы... Якімі прыемнымі, сапраўды нязмушанымі і яркімі былі яны падчас Першых Дзён культуры Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча. Сустрэчы афіцыйныя і неафіцыйныя — яны вылiваліся ў зацікаўленыя дыялогі і бурныя авацыі ў самых прэстыжных тэатрах і канцэртных залах Варшавы... Непрыхаванае захапленне чыталася ў вачах варшавян, калі яны глядзелі на жывапісныя палотны, прывезеныя з беларускай зямлі, калі перад імі на кінастужках паўставала старажытная і маладая Беларусь...

**З наступнага нумара "К" пачынае расказ пра гэтыя незабыўныя і плённыя сустрэчы.**

*На здымках:*

*У канферэнц-зале Таварыства "Польшча —Усход" (злева — направа) Стэфан Наўрот, прэзідэнт Таварыства; Тадэвуш Поляк, намеснік міністра культуры і мастацтва Рэспублікі Польшча; Уладзімір Рылатка, кіраўнік афіцыйнай дэлегацыі, першы намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь; Мечыслаў Фяткевіч, памочнік міністра культуры Рэспублікі Беларусь, Аляксандр Баршчэўскі, пісьменнік і вучоны, прафесар Варшаўскага універсітэта.*

*Экскурсія ў Каралеўскім замку.*

**Наш кар.**
**Фота Юрыя ЦВЯТКОВА**



# НЕ ТЭЛЕГРАФНЫЯ СЛУПЫ!"

*манументальнага мастацтва адлюстраваць гераічную барацьбу нашых суайчыннікаў супраць фашысцкіх захопнікаў на заходніх рубяжах Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.*

*Згодна з рашэннем Пінскага гарвыканкама, месцам узвядзення помніка вызначаны сквер па вул.Першамайскай (зона Дома культуры Трыкатажніка). Помнік павінен аглядацца з усіх бакоў, мець свабодны да яго доступ, а кошт не павінен перавышаць 2,5 мільярдаў рублёў.*

*Бліц-конкурс праводзіцца з 1 чэрвеня па 15 ліпеня 1997 года. У ім могуць прыняць удзел як асобныя грамадзяне, маючыя творчую кваліфікацыю (мастакі, архітэктары, дызайнеры і г.д.), так і творчыя калектывы.*

*На бліц-конкурс падаюцца наступныя матэрыялы:*

*1. Генплан у маштабе 1:500; (50х50 см);*

*2. Перспектыва ці фотамантаж (наклееныя на кардоне 50х50 см);*

*3. Макет альбо мадэль помніка не больш за 30-40 см, гіпс ці пластылін (па выбару аўтара).*

*Усе конкурсныя матэрыялы падаюцца пад дэвізам, які азначаецца шасцізначнай лічбай (вышыня шрыфта 1 см) і наносіцца ў правым верхнім куце ўсіх падаваемых матэрыялаў, а таксама на дэвізным канверце, у якім знаходзяцца звесткі аб аўтары.*

*Тэрмін падачы конкурсных праектаў — 15 ліпеня з 9.00 да 18.00 гадзін па адрасах: у г.Мінску — праспект Скарыны, 47, многафункцыянальны выставачны комплекс "На ростанях";*

*у г. Пінску — вул. Дняпроўскай флатыліі, д.21, упраўленне архітэктуры і горадабудаўніцтва Пінскага гарвыканкама.*

*У мэтах абмеркавання пададзеных на конкурс праектаў у г.Пінску прадугледжваецца арганізаваць іх выставу. Праектныя матэрыялы, якія не адпавядаюць праграме і ўмовам конкурсу, разглядацца не будуць.*

*За лепшы праект з ліку прадстаўленых абвяшчаецца прэмія ў суме 10 мільёнаў рублёў...*

*Праграму і ўмовы ўдзельнікам конкурсу прадстаўляе Міністэрства культуры (аддзел музеяў і выставаў). Тэлефон для даведак 226-96-59. З неабходным для конкурсу матэрыялам удзельнікі конкурсу могуць пазнаёміцца ў музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. (г.Мінск, пр. Скарыны, 25 "А", тэл. 227-56-65).*

*СКЛАД ЖУРЫ*

*Шуст В.У. — старшыня Пінскага гарвыканкама, старшыня журы;*

*Гедройц В.К. — намеснік міністра культуры, намеснік старшыні журы;*

*Гарбунова С.Р. — намеснік старшыні Рады Беларускага Саюза мастакоў, намеснік старшыні журы;*

*Базакоўскі У.І. — ветэран партызанскага руху на Палессі;*

*Васіленка А.Б. — начальнік упраўлення архітэктуры і горадабудаўніцтва Пінскага гарвыканкама;*

*Гулевіч А.І. — ветэран партызанскага руху на Палессі;*

*Дабравольская Л.І. — сакратар журы;*

*Канеўскі А.А. — намеснік старшыні Пінскага гарвыканкама;*

*Канькоў М.К. — старшыня праўлення Брэсцкай арганізацыі Беларускага Саюза мастакоў;*

*Крамарэнка В.У. — архітэктар, Беларускі Саюз архітэктараў;*

*Лятун У.М. — скульптар, Беларускі Саюз мастакоў;*

*Маскалевіч Л.В. — архітэктар, Беларускі Саюз архітэктараў;*

*Уродніч У.В. — мастак, супрацоўнік Міністэрства культуры;*

*Фінскі А.М. — скульптар, Беларускі Саюз мастакоў;*

*Гістарычная даведка*

*"Піншчына ў гады вайны стала адным з асяродкаў партызанскай барацьбы. 22-24 чэрвеня 1941 года ў Пінску быў створаны партызанскі атрад, які ўзначаліў герой грамадзянскай вайны Васіль Захаравіч Корж...У Пінскай вобласці таксама дзейнічалі атрады М.Т.Шыша, "Імя Чапаева", "Імя Суворава" і іншыя, многія выраслі ў буйныя фармаванні — брыгады, з якіх стварылася Пінскае партызанскае злучэнне агульнай колькасцю больш за 8000 чалавек. Іхнія баявыя дзеянні аказвалі вялікую дапамогу савецкім войскам у час Сталінградскай бітвы, баёў пад Курскам і Арлом. Дзейснай была дапамога пінскіх партызанаў Чырвонай Арміі ў час вызвалення рэспублікі, калі яны вывелі са строю Днепра-Бугскі канал, у выніку гітлераўцы згубілі важнейшы водны шлях, які вёў з Украіны ў Германію. Мужнасць і гераізм многіх пінскіх партызан адзначаны дзяржаўнымі ўзнагародамі, іх камандзірам А.Я.Кляшчову і В.З.Каржу прысвоены званні Герояў Савецкага Саюза."*

*(Даведка падрыхтавана супрацоўнікамі музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны)*

Помнікі ставяць на зямлі, каб памяталі. Аб падзеях, людзях, эпохах, нарэшце, аб ідэях і мастацкіх густах гэтых эпох. І таксама, каб той, хто атрымае зямлю ў спадчыну, шанаваў продкаў. Гісторыя стварэння помніка партызанскаму руху на Піншчыне, драматычная сама па сабе, на нашу думку, можа стаць пачаткам сур'ёзнай размовы аб месцы мемарыялаў у культурным асяроддзі грамадства.

**Ігар КЛОКАЎ**

# МАРК ШАГАЛ ПРЫЗЯМЛІЎСЯ Ў МІНСКУ

***Напярэдадні адкрыцця выставы твораў нашага земляка, вялікага мастака XX стагоддзя Марка Шагала ў Мінску наш карэспандэнт Барыс КРЭПАК сустрэўся з загадчыцай аддзела замежнага мастацтва Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Аленай КАРАНДАШАВАЙ.***

**— Алена Іванаўна, распавядзіце, калі ласка, пра выставу, якую мы 5 чэрвеня ўбачым у нашым музеі.**

— Гэтая выстава носіць назву "Міжземнаморскія творы. 1949 — 1985 гг." Яна прыбыла да нас з Парыжа 26 траўня і складаецца з пяцідзесяці дзевяці літаграфій са збору Нацыянальнага музея Марка Шагала "Біблейскае пасланне" горада Ніцы. Другая частка выставы прыбыла сёння, 30 траўня. Гэта дванаццаць гуашаў вялікага памеру і акварэляў 40 — 70-х гадоў, якія нам прадаставілі нашчадкі Марка Захаравіча.

**— Наколькі я ведаю, адкрыццё такой выставы планавалася яшчэ ў 95-м?**

— Так. Яе ідэя ўзнікла менавіта тады. Да нас са сваёй выставай прыязджала швейцарская мастачка Сюзана Бауман, якая і прапанавала нам звязацца з сям'ёй Марка Шагала наконт арганізацыі выставы ў Мінску і Віцебску. Такім чынам мы выйшлі на кантакт з унучкай вялікага мастака пані Мерэт Меер-Грабер, якая шчыра адгукнулася на нашую просьбу. Акрамя гэтага, ідэю падтрымаў і Нацыянальны музей Марка Шагала "Біблейскае пасланне" ў асобе ягонага тагачаснага дырэктара пані Сільвіі Фарэсцье, якая з'яўляецца сёння ганаровым генеральным захавальнікам культурнай спадчыны Шагала. Вось з таго часу мы і пачалі весці адпаведныя перамовы. Спачатку планавалі наладзіць выставу ў 1996 годзе, але тады не знайшлося сродкаў на транспарціроўку шагалаўскіх твораў і на страхоўку. У выніку вырашана было прымеркаваць выставу да 110-й гадавіны з дня нараджэння нашага вялікага земляка.



**— І хто з'яўляецца арганізатарамі гэтай акцыі?**

— З боку Францыі — Міністэрства культуры, Міністэрства замежных спраў і ягоны аддзел — Французская Асацыяцыя спрыяння мастацкай дзейнасці, Амбасада Францыі на Беларусі. З нашага боку — Міністэрства культуры, генеральны спонсар — фірма "Філіп Морыс", што выдаткавала сродкі на выданне каталога і афішы, а таксама шэраг іншых айчынных і замежных спонсараў. Вельмі дапамог у падрыхтоўцы выставы дарадца нашай амбасады ў Берне Алег Анісімаў.

**— Якія творы Шагала будуць прадстаўленыя ў экспазіцыі?**

— Літаграфіі, у асноўным прысвечаныя біблейскай тэматыцы. Над імі Марк Захаравіч працаваў у свой так званы "міжземнаморскі перыяд", калі жыў у Правансе. Але там ёсць і цыклы на іншыя тэмы: Парыж, Цырк і да т.п.

**— Хто са сваякоў Шагала мяркуе наведаць Беларусь?**

— 4 чэрвеня на адкрыцці выставы будзе прысутнічаць унучка мастака — пані Мерэт Меер-Грабер, якая таксама плануе паездку ў Віцебск. Пасля Мінска выстава Шагала паедзе ў Віцебск, дзе будзе працаваць у рамках II Міжнароднага Шагалаўскага пленэру да 20 ліпеня.

**— Я ведаю, што ў Мінск прыедуць таксама французскі мастацтвазнаўца, найбуйнейшы спецыяліст-шагалазнаўца, галоўны захавальнік Музея сучаснага мастацтва ў Парыжы пан Даніэль Маршэсо і пані Сільвія Фарэсцье...**

— Нядаўна прыехаў у Мінск Генеральны сакратар Нацыянальнага музея Марка Шагала пан Сільвэн Рэбо. Магчыма, што радзіму дзеда напачатку ліпеня наведаюць і іншыя ягоныя нашчадкі — унучка Бэла Меер і ўнук Піт Меер з ЗША, гэта значыць, дзеці Іды Шагал...

**— Упэўнены, што першая выстава Шагала на ягонай радзіме — на Беларусі, як і II Міжнародны пленэр ягонага імя, стануць выключнай падзеяй не толькі для нашай краіны, але і для ўсіх тых, каму дарагое імя вялікага мастака...**

*На ілюстрацыі: М.Шагал. "Стварэнне". Літаграфія, 1960.*

# ЖЫЦЦЯПІС ГЕНІЯ

Выйшаў у свет дадатак да штомесячнага бібліяграфічнага бюлетэня "Новыя кнігі: Па старонках беларускага друку" (1997, № 4) — "Марк Шагал". Дадатак складаецца з агляду, у якім прасочваецца жыццёвы і творчы шлях мастака, і бібліяграфічнага спіса. У аглядзе прыводзяцца звесткі пра дзяцінства Шагала ў Віцебску, яго вучобу ў студыі Ю.Пэна, удзел у мастацкім жыцці Віцебска адразу пасля рэвалюцыі, у тым ліку ў стварэнні Віцебскай народнай мастацкай школы, пра розныя перыяды яго парыжскага жыцця, шматлікія замежныя падарожжы. На працягу доўгага творчага шляху М.Шагал звяртаўся да розных відаў выяўленчага і прыкладнога мастацтва. Пра Шагала-жывапісца, а таксама графіка, вітражыста, кераміста, скульптара і, нарэшце, паэта і апавядаецца ў аглядзе.

У раздзеле бібліяграфіі прыводзіцца спіс асобных альбомаў Шагала, а таксама рэпрадукцый з перыядычных часопісаў, згадваюцца некаторыя выданні з літаратурнай спадчыны мастака, матэрыялы, у якіх апавядаецца пра яго жыццё і творчасць, асобныя палотны, серыі і выставы, успаміны людзей, што ведалі яго, а таксама матэрыялы, якія сведчаць пра ўшанаванне яго памяці на Радзіме.

**Таццяна МАМЕДАВА,**
**супрацоўніца Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.**

# ЭСТРАДА КУЕЦЦА Ў БУКу

Упершыню ў гісторыі беларускага мастацтва ў 1998 годзе адбудзецца выпуск студэнтаў Беларускага універсітэта культуры па спецыялізацыі "артыст эстрады". Хаця можна сказаць, што за год, які застаўся правучыцца студэнтам, "яшчэ многа вады сцячэ" і яшчэ шмат чаго можа змяніцца, аднак ужо сёння распачаўся першы этап атрымання маладымі хлопцамі і дзяўчатамі гэткай нешараговай прафесіі.

26 мая 1997 года ў самім БУКу прайшла першая абарона дыплома будучых эстраднікаў на курсе Вячаслава Паніна. У студэнтаў наперадзе яшчэ дзве падобныя абароны. Але ж першая — самая страшная, самая паказальная, самая павучальная. Таму, магчыма, сёлетняя дыпломная абарона ўяўляла сабой спектакль пад назвай "Заклятыя скарбы" па матывах добра вядомай амаль усім беларускім акцёрскім калектывам п'есы Міхася Чарота "Мікітаў лапаць". Праўда, шчодра аздоблены сцэнкамі з беларускіх баек, паданняў, паказак гэты спектакль пераўтвараўся ў падпарадкаваны пэўнай сюжэтнай лініі эстрадны канцэрт. Тут былі і сатырычныя маналогі, і элементы танцавальнага і вакальнага шоу, і тэатральныя мініяцюры, і нават фокусы. Публіка, а гэта ў асноўным таксама студэнцтва, была зачаравана. Вясёлая дзея захапляла, дзівіла і, безумоўна, дарыла станоўчы эмацыйны зарад на ўвесь астатні дзень. Дый і з месцаў, дзе засядалі паважная ацэначная камісія і мэтры тэатральнага мастацтва, таксама чуліся смех і воплескі.

Магчыма, і былі ў маладых эстраднікаў пэўныя памылкі, якія маглі разгледзець спецыялісты, магчыма, і былі некаторыя нябачныя простаму гледачу "агрэхі" і "замінкі", але тое, што не было збоеў у юнацкага задору выступоўцаў, — гэта, як кажуць, факт. І дай Бог, каб гэткі задор застаўся з артыстамі і надалей, на ўсю іх далейшую постдыпломную творчую дзейнасць на прафесійнай сцэне.

**Серж МІНСКЕВІЧ**

## З хронікі падзей

* * *

Паводле рашэння Магілёўскага гарвыканкама, былая Сілікатная вуліца названа імем вядомага кінарэжысёра, народнага артыста Беларусі і СССР Віктара Турава, а новая вуліца ў мікраёне Спадарожнік — імем народнага пісьменніка Беларусі Івана Чыгрынава.

* * *

З 1 чэрвеня па 5 ліпеня 1997 года на тэрыторыі Мінскага маладзёжнага культурна-забаўляльнага цэнтра (вул. Арлоўскага, 14-а) адбудзецца І Міжнародны пленэр скульптуры памяці народнага мастака Беларусі Анатоля Анікейчыка. У пленэры прымаюць удзел скульптары Беларусі, Літвы, Украіны. Арганізатары пленэру — Дзяржаўнае прадпрыемства "Маладзёжны культурна-забаўляльны цэнтр" Міністэрства культуры РБ, Беларускі Саюз мастакоў, Беларуская Акадэмія мастацтва, Беларускі фонд культуры, Беларускае таварыства дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі.

Пленэр праводзіцца пры падтрымцы выдавецкай групы "Несси", Мінскага Міжнароднага адукацыйнага цэнтра і СП "Белполэлектрамантаж".

У канцэртнай праграме пленэру возьмуць удзел зоркі беларускай эстрады.

**Наш кар.**

# АНОНС З ГІСТОРЫЯЙ

### *1. Анонс: Не размініцеся з "Кацярынай Ізмайлавай"!*

31 мая Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы ўшаноўвае 90-годдзе Дзмітрыя Шастаковіча, якое цэлы год святкавалася ўсім цывілізаваным светам. Ці трэба казаць, што юбілей выклікаў новы ўсплёск цікавасці да вялікай і шматпакутлівай оперы "Лэдзі Макбет Мцэнскага павета" ("Кацярына Ізмайлава"), на долю якой выпалі незлічоныя трыумфы і гвалтоўнае адлучэнне ад сцэны аж на 27 гадоў? Пастаноўкі оперы ў "Ла Скала", нью-ёркскай "Метраполітэн-Опера", Марыінскім тэатры, дзе, дарэчы, па чарзе паказваюць абедзве аўтарскія рэдакцыі, нядаўняе канцэртнае выкананне ў Маскве пад кіраўніцтвам Мсціслава Растраповіча — адзін толькі гэты пералік яскрава сведчыць аб месцы твора ў свеце оперы. На гонар беларусаў, "Лэдзі Макбет..." ёсць і ў рэпертуары Нацыянальнага тэатра оперы і пасля паўтарагадовага перапынку будзе нарэшце прадстаўлена публіцы. У спектаклі, дзе не толькі галоўныя, але нават і эпізадычныя партыі патрабуюць "спевакоў-снайпераў" (трапны выраз Галіны Вішнеўскай), будуць заняты Таццяна Ціўнова, Васіль Кавальчук, Аляксандр Тузлукоў, Віктар Стральчэня, Генадзь Чэпікаў, Нагіма Галеева, Алег Мельнікаў, Міхаіл Дружына, Юрый Бастрыкаў, Людміла Крывёнак, Сяргей Франкоўскі, а за дырыжорскі пульт стане Аляксандр Анісімаў.

**Алена САЛАМАХА**

### *2. Гісторыя: Яшчэ раз скрозь церніі...*

"Лічу, што той хто не паслухаў гэтую оперу, сябе абяздоліў!" "Агітуючы" мяне, Алена Саламаха, старшыня сталічнага Клуба сяброў оперы і кіраўнік рэкламнага аддзела тэатра, выкарыстала менавіта такую моцную стылістычную фігуру. І працягнула буклет, які падрыхтаваны да спектакля. Вось урыўкі з яго:

*"...Кампазітар пачаў працу над операй у 24 гады, скончыў у 26, а ўжо ў наступным, 1934 годзе ўбачыў сваё тварэнне на сцэне адразу двух сталічных тэатраў: у ленінградскім Малым оперным і ў маскоўскім імя У.І. Неміровіча-Данчанкі...У Ленінградзе за 2 гады спектакль вытрымаў 83 прадстаўленні..."*

*..."Опера "Лэдзі Макбет Мцэнскага павета" ўяўляецца мне самым дакладным і яскравым аўтапартрэтам кампазітара, напісаным ім яшчэ ў самую шчаслівую пару ягонага жыцця. Тут ён такі, якім стварыў яго Бог: малады геній, які дзівосна злучае ў сабе інтэлект, вытанчаны талент і тэмперамент, што б'е цераз край, піша без аглядкі, як хоча, як адчувае...Няма яшчэ над ім дубіны, ад якой яму давядзецца ўхіляцца ўсё жыццё" (Г.Вішнеўская. З кнігі "Галіна").*

Рэдакцыйны артыкул у "Правде" за 27 студзеня 1936 года пад назвай "Сумбур замест музыкі" паклаў канец трыумфу оперы ў краіне. Вялікую сілу мела друкаванае слова!

*..."Пасля разгрому оперы... адчуванне зняважанага ў ім мастака не пакідала Шастаковіча да канца жыцця. Мы і ўявіць сабе не можам, у што яшчэ мог бы выліцца ягоны геній, калі б недасведчаныя, але надзеленыя ўладай людзі не скалечылі б ягоную душу...У аддзеле агітацыі і прапаганды ЦК партыі яму сказалі, што калі ён пагодзіцца на перапрацоўку оперы, яе дазволяць паставіць...Уладам трэба было атрымаць другую рэдакцыю, каб не давялося прызнавацца ў бандытызме 1936 года і каб паказаць усім, што "крытыка" была справядлівая, калі кампазітар яе прыняў... І ён пайшоў на кампраміс, зрабіў другую рэдакцыю пад назвай "Кацярына Ізмайлава", прэм'ера адбылася 8 студзеня 1963 года ў Маскве" (Г.Вішнеўская).*

*"...Гледзячы на падзеі 60-гадовай даўніны з дня сённяшняга, міжволі думаеш, ці была якая-небудзь заканамернасць у забароне оперы... Кампазітар выкрываў старую Расію, купецкі, дамастроеўскі побыт. Але... такая музыка мае вялізную абагульняючую сілу. Опера была прасякнута гуманістычным пратэстам супраць прыніжальнай, дэфармуючай чалавека нявoлі, асабліва невыноснай для асобы значнай, сумленнай і цэльнай... Не, ганіцелям і забараніцелям оперы не адмовіш у пранікліваcці — яны адчулі яе відушчы характар!"*

Звыклая і жудасная гэтай звыкласцю гісторыя, яшчэ адна з ланцуга паранаідальна афарбаваных, амаль сюррэалістычных адносінаў паміж Сістэмай і Творцам. Можа і сапраўды адзінае выйсце для мастака, які ўсведамляе значнасць свайго таленту, — гэта тое, што абралі прыгаданыя вышэй Галіна Вішнеўская і яе муж, зрабіўшы выбар паміж радзімай і прызначэннем на карысць апошняга? Каб дачакаць, калі Сістэма з крыважэрнага звера ператворыцца ў ласкавага кацяня і прыпадзе да іх ног...

Сапраўдная гісторыя заўсёды справядлівая, і хто цяпер памятае ўсясільных знаўцаў мастацтва са старонак "Правды"? А "Лэдзі Макбет...", хай нават раз на паўтара гады, можна пачуць і ў нас, у Мінску. Дарэчы, пастаноўку яе ажыццявіла ў сакавіку 1994 года рэжысёр Маргарыта Ніколаўна Ізворска-Елізар'ева, жонка кіраўніка беларускага балета, разам з дырыжорам Аляксандрам Анісімавым і мастаком Вячаславам Окуневым.

**Ігар КЛОКАЎ**



*На здымку: сцэна з оперы, Кацярына — Т.Ціўнова, Задрыпаны мужычонка — Г.Чэпікаў.*

**Фота Васіля МАЙСЯЁНКА**

# ФОРУМ МУЗЫЧНЫХ КУЛЬТУР НАРОДАЎ БЕЛАРУСІ

Ёсць нешта сімвалічнае ў тым, што першы форум музычных культур народаў Беларусі называўся "Квецень сонечных промняў" — гэткі паэтычны сінонім вясёлкі. Сцэну Палаца культуры прафсаюзаў, дзе адбываліся канцэрты форуму, афішы і буклеты ўпрыгожвалі пярэстыя пялёсткі — эмблема другога Рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур, у межах якога і праходзіў форум.

Можа, занадта працяглым і няроўным па мастацкім узроўні быў канцэрт, які адкрываў форум. Можа, не хапала ўсяму форуму прадуманай драматургіі з лагічнай кульмінацыяй. Можа, удзел у імпрэзе Беларускага аўтарскага фонду кампазітараў павінен быў быць больш творчым, а не толькі арганізацыйным. Нарэшце, можа, патрэбны быў больш пільны рэдактарскі дагляд пры выпуску друкаванай прадукцыі, у тым ліку тэзісаў навукова-педагагічнай канферэнцыі "Узаемадзеянне і ўзаемаўзбагачэнне нацыянальных музычных культур народаў Беларусі".

Але ж шукаць недахопы — справа няўдзячная. Тым болей, што яны прыдзірліва фіксаваліся самімі арганізатарамі, каб не паўтараць іх пасля. Бо форум — гэта толькі пачатак фестывалю, які будзе доўжыцца яшчэ год. Наперадзе — шматлікія святы, конкурсы, імпрэзы беларускіх татар, армянскай, літоўскай, польскай, рускай, украінскай, яўрэйскай творчасці на Беларусі.

**Надзея БУНЦЭВІЧ**

# ПРЭЗЕНТАЦЫЯ Ў САЮЗЕ КАМПАЗІТАРАЎ

Нядаўна ў Саюзе кампазітараў адбылася прэзентацыя навукова-папулярнай кнігі "Кампазітары Беларусі". У абмеркаванні ноўвыдадзенай кнігі бралі ўдзел старшыня Саюза кампазітараў Ігар Лучанок, Ларыса Мурашка, Анатоль Багатыроў, Віктар Войцік і іншыя. Аўтары даведніка Тацццяна Мдзівані і Раіса Сергіенка расказалі аб складанасцях, з якімі яны сутыкнуліся падчас сваёй працы, а таксама падзякавалі супрацоўнікам выдавецтва "Беларусь", якія, нягледзячы на наш такі нялросты для кнігавыдання час, прыклалі ўсе свае намаганні, каб даведнік з цікавай і патрэбнай інфармацыяй пабачыў свет. Выступоўцы зазначылі таксама, што кніга не толькі дапаўняе ранейшыя даведнікі 1966 і 1978 гадоў выдання, але і мае істотнае адрозненне ад іх найперш сваім прынцыпам пабудовы: у аснову пакладзены не традыцыйны алфавітны прынцып размяшчэння персаналій, а дата прыёму творцы ў саюз. Апрача асноўных звестак пра асобу, у даведніку змешчаны ўсе — без выключэння — творы сучасных кампазітараў, а таксама дадатковыя звесткі аб музычных творах са спасылкамі на часопісы і газеты, дзе былі надрукаваны. Заключэнне кнігі напісана па-ангельску.

Прысутныя на прэзентацыі адзначылі таксама сапраўды "еўрапейскі ўзровень" нованга выдання. Застаецца дадаць, што ноўвыдадзеная кніга ўжо паступіла ў кнігарні горада.

**Алена РЫГОРАВА**

# ТАМ, ДЗЕ НАРАДЗІЎСЯ ІОСІФ ЖЫНОВІЧ

Ёсць у Пухавіцкім раёне сціплая, не дужа вялікая вёска Арэшкавічы. Славу ёй прынёс Іосіф Іосіфавіч Жыновіч, вялікі беларускі цымбаліст, дырыжор, кампазітар, педагог. Ён нарадзіўся ў гэтым маляўнічым Пухавіцкім куточку 14 мая 1907 года. Да 90-годдзя вялікага артыста (а меў ён званне народнага і на ўсебеларускай прасторы, і на савецкай) непасрэдна ў Арэшкавічах і прайшлі вялікія ўрачыстасці. Гучалі і цымбалы, выступалі самадзейныя пухавіцкія артысты.

А ў Арэшкавіцкім сельскім Доме культуры выступаў Дзяржаўны аркестр Рэспублікі Беларусь імя І.Жыновіча пад упраўленнем прафесара М.Казінца. Трэба заўважыць, што гэта другая важная музычная традыцыя на пухавіцкай зямлі. Ужо двойчы праводзіліся фэсты старадаўняй музыкі ў музеі матэрыяльнай культуры "Дудуткі", створаным пісьменнікам і прадпрымальнікам Яўгенам Будзінасам паблізу славутай сядзібы Ельскіх.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

*Вандалізм*

# РАБАЎНІКІ Ў ДОМЕ БОНЧ-АСМАЛОЎСКІХ

Багатая на гісторыю Пухавіцкая зямля. Якое стагоддзе ні закрані — імёны, падзеі, вартыя многіх і многіх фаліянтаў. Шкада вось толькі, што архітэктурных помнікаў на Пухаўшчыне амаль не засталося. Адзін з нямногіх уцалелых — сядзібны дом Бонч-Асмалоўскіх *(на здымку)*. Нарадавольцаў. Рэвалюцыянераў-памешчыкаў.



Апошнім часам ажыў гэты дом, прытуліўшы (а месціцца сядзіба ў вёсцы Блонь) раённы краязнаўчы музей. Ды толькі не дрэмлюць вандалы. У мінулыя выхадныя (канешне ж, цёмныя справы робіцца ноччу) музей абакралі. З экспазіцыі прапалі старыя кнігі, некалькі баявых ордэнаў.

Падрабязнасці росшукаў злодзеяў (а будзем спадзявацца, што іх знойдуць) мы яшчэ раскажам чытачу.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# НЕ ПРЫПОМНЯЦЬ ПАДОБНАЙ СУСТРЭЧЫ...

"Нават у элітарнай школе нашага горада — школе-гімназіі № 7 — не прыпомняць падобнай сустрэчы, на працягу якой можна было б бачыць і слухаць нашых славутых суайчыннікаў ад паэзіі, літаратуры, эстрады. Хлебам-соллю сустракалі настаўнікі і гімназісты народнага паэта Беларусі, актыўнага грамадскага дзеяча Ніла Сымонавіча Гілевіча, вядомую пісьменніцу Вольгу Іпатаву, заслужаную артыстку Беларусі, салістку Беларускага радыё і тэлебачання Ганну Радзько, народнага артыста Беларусі Анатоля Ярмоленку" — так пачынаецца рэпартаж К.Серафіновіча ў "Лідскай газеце".





Сапраўды, гэтая сустрэча запомнілася вучням нейкай асаблівай шчырасцю і цеплынёй. І можа не толькі таму, што пералічаных тут гасцей Ліды любяць і паважаюць на ўсіх кутках Беларусі, але і таму, што шмат намаганняў прыклаў для таго, каб гэтая сустрэча адбылася, лідскі мастак і грамадскі дзеяч Уладзімір Мельнікаў.

Некалькі гадоў запар стварае ён своеасаблівую галерэю партрэтаў людзей, якія сваім талентам служаць беларускаму Адраджэнню, прывівае сваім вучням, юным мастакам, цікавасць да глыбока пазтычнай скарбніцы беларускага народа — яго паданняў, ткацтва, вырабаў майстроў, да ўсяго, што стварыў геній народа на працягу стагоддзяў. Нездарма працы яго выхаванцаў, з якімі ён прыязджаў у Мінск, на выставу, што арганізавалі летась лідчукі ў Палацы мастацтва, былі высока ацэнены прафесіяналамі, а таксама Міністэрствам культуры (наша газета пісала пра навучэнцаў Уладзіміра Мельнікава і змясціла ягоны ўласны твор — патрэт Маргарэт Тэтчар).

Вось і падчас сустрэчы з пісьменнікамі і артыстамі ў школе працавала выстава твораў Уладзіміра Мельнікава і яго былой вучаніцы, цяпер навучэнкі Беларускага ліцэя мастацтваў Іны Карней. І трэба сказаць, яна карысталася поспехам: не часта даводзіцца ўбачыць побач з мастацкім творам, які да таго ж створаны таленавіта і з захапленнем, ягоны прататып. Не было толькі партрэта Вольгі Іпатавай — лідскі мастак пачаў над ім працу нядаўна.

— Новая сустрэча з творчасцю Вольгі Іпатавай як бы высвеціла для мяне нешта новае ў яе вобразе, — сказаў Уладзімір Мельнікаў. — Я не ведаў, што некаторыя свае вершы яна напісала менавіта тут, на Лідчыне, калі гасцявала па запрашэнні Данүты Бічэль-Загнетавай у ейных Біскупцах. Што ж тычыцца творчасці нашай землячкі Ганны Радзько — заўсёды з вялікім задавальненнем слухаю яе цудоўны голас і захапляюся рэдкай абаяльнасцю яе таленту, гэтак жа шчаслівы тым, што знайшлі час для прыезду да нашых вучняў і настаўнікаў Ніл Гілевіч і Анатоль Ярмоленка.

Думаецца, што сустрэча ў Лідзе запомніцца не толькі лідчукам. Дзеці, якія захоплена слухалі беларускае слова, адгукаючыся на яго найтанчэйшыя адценні, разняволена і радасна падпявалі Анатолю Ярмоленку і бясконца "замаўлялі" яму свае любімыя беларускія песні — гэта ўжо новае пакаленне, што пачынае, нарэшце, адчуваць сябе сынамі гэтай зямлі. І можа, новыя песні ці вершы, якія народзяцца ў творцаў — удзельнікаў сустрэчы, будуць у нечым абавязаныя менавіта ёй...

**Я.Ф.**
*Ліда — Мінск*

*На здымках: Уладзімір Мельнікаў сярод герояў сваіх твораў;*
*Анатоль Ярмоленка і юныя лідчукі спяваюць разам.*

**Фота Л.ЛАПШЫНОЙ**

# "НА ЧУЖЫНЕ РОДНЫ ВАСІЛЁК..."

У сталічным Доме літаратара прайшла вечарына, прысвечаная паэту Алесю Салаўю. Успаміны сяброў, выступленні беларускіх дзеячаў культуры, песні, музыка — усё гэта было данінай памяці песняра. Мікола Ермаловіч і Мікола Аўрамчык распавялі пра жыццёвы шлях паэта. Бард Алег Атаманаў праспяваў некалькі песень на словы Алеся Салаўя. А напрыканцы вечарыны адбылася дыскусія паміж Пятром Васючэнкам, які сцвярджаў, што ў Аўстраліі, сярод кенгуру, Алесь Салавей, нарэшце, знайшоў доўгачаканы жыццёвы спакой, і Яўгенам Лецкам, які сцвярджаў, што паэт пакутаваў без радзімы і з гэтага амаль закінуў творчую дзейнасць.

Прыемна было бачыць на вечарыне маладыя твары, гэта сведчыць аб тым, што цікавасць моладзі да беларускай літаратуры не згасае.

**Наш. кар.**

# 85 ВЁСНАЎ АНАТОЛЯ ІВЕРСА

У маі 1912 года нарадзіўся ў вёсцы Чамяры, што пад Слонімам, яркі і самабытны паэт "бацькоўскага краю", падпольшчык, антыфашыст і партызан Анатоль Іверс (сапраўднае прозвішча Іван Дарафеевіч Міско).

У маі 1997 года ў горадзе Слоніме пабачыла свет новая кніга паэта "Травень", спонсарам і выдаўцом якой выступіла Слонімская ўзбуйненая друкарня, мастаком зборніка стаў Пётр Бурсевіч. Вось што на адной са старонак гэтага выдання напісана: "Чытачы ўжо знаёмы з творчасцю старэйшага беларускага паэта са Слоніма Анатоля Іверса (Івана Дарафеевіча Міско) па зборніках вершаў "Песні на загонах" (1939), "З пройдзеных дарог" (1970), "Жыву ў бацькоўскім краі" (1982), "Я пайшоў бы ўслед за летам..." (1987) і "Прыдарожныя сосны" (1995).

Лірычнаму герою новага зборніка ўласціва абвостраная пачуццё любові да Бацькаўшчыны, да сваіх землякоў і роднай прыроды".

У маі 1997 года ў той жа самай вёсцы Чамяры, дзе нарадзіўся паэт, у сельскім Доме культуры адбыліся ўрачыстасці ў сувязі з 85-годдзем Івана Дарафеевіча і прэзентацыя кнігі "Травень". Нездарма паэт у ёй пісаў:

*Месяц травень — і я ў доме,*
*У той дзень на свет прарос.*
*І на леташнім саломе*
*Абсыхаў ад майскіх рос.*

Вяла ўрачыстасці (вельмі шчыра і ўдала) загадчык Чамяроўскай сельскай бібліятэкі Вера Міхайлаўна Бруснікова, асабліва аздобіў гэтую вечарыну самадзейны калектыў "Чамярыцы". У госці да паэта прыбылі і выступілі "касмічны скульптар" Іван Міско (Мінск), паэт Сяргей Чыгрын (Слонім), малады журналіст Сяргей Ёрш (Слонім), паэт Іван Чыгрын (Мінск), аўтар гэтых радкоў, паэтка Данута Бічэль-Загнетава (Гродна), Рудольф Пастухоў, Аляксей Якімовіч, Іван Сяргейчык (усе мясцовыя пісьменнікі са Слоніма), іншыя людзі, усяго выступіла каля 30 чалавек. Увесь вечар праходзіў пры ўдзеле гарадскіх і раённых уладаў, прадстаўнікі якіх годна адзначылі свайго лепшага грамадзяніна не толькі кветкамі, пацалункамі, узнагародамі, падарункамі, але і надзвычай шчырымі і добрымі словамі.

У канцы святочных мерапрыемстваў проста на вачах прысутных 85-гадовы мудры творца нарадзіў два вершы "Маім землякам" і "Працаўнікам Чамяроўскай сельскай бібліятэкі".

Уся вечарына ў Доме культуры ў Чамярах, набітым напоўню працавітымі і гасціннымі чамяроўцамі, нагадвала мне нейкую ўсепераможную сімфонію міру, дабра, чысціні, носьбітам якой з'яўляецца паэт Анатоль Іверс.

**Міхась МАЛІНОЎСКІ,**
**правадзейны член Геаграфічнага таварыства.**

# К КУЛЬТУРА

SCRIPTA MANENT

## ТРЫБУНА Літаратара

# ПАСТАМЕНТ ДЛЯ КРЫТЫКА



***Гэта асобная і доўгая гаворка, чаму так здавён склалася, што талент літаратурнага крытыка a priori ацэньваецца ніжэй, чым талент празаіка, паэта альбо драматурга. І хаця ў гісторыі кожнай літаратуры ёсць літаратурныя крытыкі, якімі яна ганарыцца не менш, чым паэтамі альбо празаікамі (згадаю хаця б Сент-Бёва ў французскай літаратуры, Лесінга — у нямецкай, Бялінскага — у рускай, Бабарэку — у беларускай), але ў цэлым гэты род творчасці ўспрымаецца як другасны, з чым, прынамсі мне, цяжка пагадзіцца, бо талент — ён дзе заўгодна талент...***

***З мэтай рэабілітацыі літаратурнай крытыкі (і, адпаведна, — крытыкаў) я і ўздумаў сяго-таго з тутэйшых майстроў крытычнага цэха раз-пораз запрашаць на пастамент "Трыбуны "Л" — хай яны патроху прывыкаюць да бездані пад нагамі. А там, глядзіш, абвыкшыся на папяровым пастаменце, можа хто з цягам часу і на мармуровы пераскочыць...***

***Першым я вырашыў запрасіць сюды Пятро Васючэнку. І не дзіва, што яго, бо мы з ім жывём у адным мікрараёне ("Уручча-4"). Суседзі, можна сказаць. А сусед для беларуса даражэй за сваяка.***

***Пятро Васючэнка піша артыкулы, рэцэнзіі, апавяданні, эсэ, п'есы, займаецца гісторыяй літаратуры, тэатра, літаратуразнаўствам, культуралогіяй.... Адным словам, не чалавек, а літаратурны камбайн. Хаця з росту і ў паводзінах ён ніяк не выдае на гару, што з пыхлівым грукатам адначасна працуе ў розных накірунках. Таму, мабыць, мяне шмат хто папікне за гэтае параўнанне, але я гатовы настойваць на яго невыпадковасці, бо мне здаецца, што якраз "надворныя" сціпласць і далікатнасць Пятра Васючэнкі замінаюць многім у поўнай ступені заўважыць і ацаніць меру яго творчай прысутнасці ў сучасным літаратурным працэсе. Менавіта — у поўнай ступені, бо нельга сказаць, што ён мала заўважаны. Яго чытаюць, ведаюць, цытуюць, але, на мой погляд, усё гэта пакуль не акцэнтуецца на ім самім як цэлым, на ім самім — як постаці. Паспрабуем паглядзець на яго знізу ўверх...***

**Валянцін Акудовіч:** Спадар Пятро, спачатку я хацеў бы пачуць адказ на наступнае пытанне: чым ёсць сучасная беларуская літаратура для самой сябе, грамадства і асабіста для Вас?

**Пятро Васючэнка:** Беларуская літаратура для самой сябе ёсць рэччу ў сабе, неразамкнёным цэлым, нерасчытанай канстантай — чым яна была, ёсць і будзе. Для грамадства — у тым ліку чытача, рэцэпіента — яна раптам абярнулася варыянтнасцю, вясёлкавым веерам, атожылкамі, адгалінаваннямі. Цэнтр, асноўны масіў літаратуры як бы перастаў існаваць. Магчыма, у новых варунках літаратуры адродзіцца свой афіцыёз, але сумняваюся, каб ён склаў магістральную лінію, як гэта было за савецкімі часамі. Цэнтр, на маю думку, — на мяжы эксперымента і традыцыі, літаратурнай гульні і рамества. Пошук гэтага цэнтра, сама ягоная магчымасць (або немагчымасць?) — тое, чым цікавіць мяне літаратура сёння.

**В.А.:** Ці маглі б Вы назваць знакавыя фігуры (тут я маю на ўвазе як "постаці", так і суполкі і нават асобныя літаратурныя тэксты) сучаснага літаратурнага працэсу?

**П.В.:** Знакі на тое й знакі, каб пазначаць імі накірункі, атожылкі і адгалінаванні літаратурнага працэсу, і гэтаму занятку добра спрыяюць вядомыя ўсім рубрыкі, тэматычныя блокі, старонкі — колішняе "ЗНО" ў "Культуры", "Грамафон" у "Нашай Ніве", "Я маю твор" або "Яно" ў "Крыніцы". Пад гэтымі знакамі-рубрыкамі самасцвярджаліся тэксты, не заўсёды самыя значныя, але, бадай, самыя характэрныя, сімптаматычныя для сённяшняга літаратурнага працэсу.

**В.А.:** Паэзія, проза, эсэістыка, літаратурная крытыка... У якой з гэтых галінаў літаратуры "стан справаў" Вас сёння найбольш задавальняе?



**П.В.:** Бачыце, Вы самі гэтае "стан справаў" іранічна бераце ў двукоссі, бо ацэньваць яго ў літаратуры трэба, напэўна, інакш, чым, скажам, у сельскай гаспадарцы. Тым не менш... У беларускай паэзіі справы традыцыйна, пачынаючы ад XIX стагоддзя, не самыя горшыя. У прозе, апроч памянёнага цэнтра, бракуе звычайных рэалістычных твораў, прысвечаных сённяшняму дню, з пераасэнсаваннем таго рацыянальнага, мажліва, трагічнага, што з намі адбываецца. Няма прэтэнзій (пра што Вы самі казалі ў адным з інтэрв'ю) на напісанне інтэлектуальнага рамана або "рамана стагоддзя" — трэба было б пасняшацца, бо колькі таго стагоддзя засталося... Усплёск эсэістыкі мяне нават палохае, і не з прычыны жорсткай канкурэнцыі, але й таму, што за эсэ часам сядаюць творцы з выразна лагічным, рацыянальным складам мыслення, каму б варта было практыкавацца ў іншым, больш дысцыплінаваным жанры.

**В.А.:** Здаецца, усе (і даўно) пагадзіліся, што ў нас няма літаратурнай крытыкі, а ёсць адно некалькі літаратурных крытыкаў. Вы згодныя з гэтым меркаваннем?

**П.В.:** Калі б у нас было некалькі літаратурных крытыкаў, як кажуць, дык тады можна было б сцвярджаць, што ў нас ёсць добрая літаратурная крытыка. Нязменна актыўны й стабільны ў гэтым жанры Алесь Марціновіч — хто яшчэ? Прафесіянальная крытыка пачынаецца з прафесіянальнага чытання. Не так даўно сышоў з жыцця чалавек, які прынамсі прачытваў усю або амаль усю часопісную прадукцыю ў Беларусі — Павел Дзюбайла. Хто сёння чытае ўсё? Магчыма, сітуацыю выратавала б пасада штатнага рэцэнзента пры нейкім выданні — тым жа "ЛіМе", "Нашай Ніве" або "Крыніцы". Пэўнае ажыўленне літаратурнай крытыкі звязваю са з'яўленнем новых рубрык у "Літаратуры і мастацтве", дзякуючы вынаходлівасці Людмілы Рублеўскай.

**В.А.:** Трохі футуралогіі. Якой бачыцца Вам беларуская літаратура гадоў праз пятнаццаць-дваццаць?

**П.В.:** Будучыня за "малымі" літаратарамі "малых" нацый, этнасаў. Літаратура суперэтнасаў паступова губляе свой прыродны статус, робіцца разнавіднасцю або плынню мастацкай індустрыі. Літаратура можа выжыць адно тады, калі ахоўвае сваю экалагічную нішу існавання, вызначаную яшчэ Лесінгам. Вядома, літаратура як тварэнне тэкстаў разгорнецца ў прасторы і часе, пранікацьмець у іншыя эстэтычныя сферы, што мы назіраем і сёння на прыкладзе сцэнараў і тэкставай асновы відэакліпаў. Але літаратура як від мастацтва знойдзе збавенне толькі ў сваёй кансервацыі, у размежаванні з "нелітаратурнай" рэальнасцю.

**В.А.:** Колькі слоў пра асабістае. Вы — цікавы празаік, але ўсё ж такі Вас пераважна ведаюць і вызначаюць як літаратуразнаўцу і літаратурнага крытыка... Ці не крыўдзіць Вас гэта? Бо што ні кажы, а літаратурная крытыка, у адрозненне ад прозы, у нас усё яшчэ лічыцца як бы не зусім творчым заняткам, дакладней, хутчэй заняткам, чым творчасцю.

**П.В.:** Я ж яшчэ й драматург... Бог ведае, спадар Валянцін, хто і за каго нас лічыць альбо будзе лічыць. Недзе жыве чытач, які больш пільна й раўніва, чымсьці мы самі, сочыць за кожным нашым словам... Памятаеце вашага чытача з Маларыты? Аднойчы высвятляецца, што нехта чытае кожны твой новы твор, шукае іх па выданнях... Мой чытач, з якім я неяк сустрэўся, зрабіў выбар якраз на карысць прозы. Толькі час высветліць, што ў нашай творчасці было галоўным. Датчанін Андэрсэн, які пісаў раманы і п'есы, напэўна, вельмі падзівіўся б, каб даведаўся, што чытач выбірацьмець ягоныя казкі. Дарэчы, я ўжо сам заўважаю, што мае эсэ апошняга часу ("Шпітальны дырыюш", "Хтанізмы", "Філалагемы") дрэйфуюць ад літаратурнай крытыкі ў бок прозы.

**В.А.:** Ці не знайшлося б у Вас новай "філалагемы", каб ёй скончыць гаворку?

**П.В.:** Калі ласка.

***ФІЛАЛАГЕМА ГЕНІЯ***

*Прызначэнне таленту ў літаратуры — "адкрываць" або ўвасабляць эпоху.*

*Геній —хто пераадольвае эпоху.*

*Рабле, Шэкспір, Сервантэс, Гётэ, Дастаеўскі — былі зацятымі змагарамі з уласным часам.*

*Геній Купалы — у процістаянні і пераадольванні агрэсіўнага XX стагоддзя.*

# З ХРОНІКІ ЛІТАРАЦКАГА ЖЫЦЦЯ-БЫЦЦЯ

Заўтра будзе лета. З гэтай нагоды мне падумалася, што можа не лішне пагаварыць пра літарацкія адпачынкі. Увогуле, літаратар — фігура досыць апрычоная ў чалавечай грамадзе. Але сонейка, зялёная трава і пчолы над кветкамі нават літаратара робяць трохі чалавекам, і літаратар пачынае амаль як звычайны паспаліты думаць: ды колькі можна гібець над гэтай паперай...

Адпачывае літаратар, як і хто іншы, па-рознаму. Усё залежыць ад колькасці грошай у кішэні і колькасці жаданняў у сэрцы. (Добра, калі першае з другім тоесніцца, але падобнае здараецца досыць рэдка.)

Раней, за савецкім часам, літаратар пераважна "адцягваўся" у пісьменніцкіх дамах адпачынку, найпрэстыжнейшыя былі ў Кактэбелі (Крым) і Дубултах (Прыбалытка). Цяпер — як у каго атрымліваецца...

Янка Брыль з вясны і да глыбокай восені жыве ў сваім дамку недзе на Гродзеншчыне, які набыў яшчэ ў тую пару, калі за пісьменніцкія заробкі можна было пабудаваць летнік ці прыкупіць у глухім закутку кінутую хаціну... Праўда, я не ўпэўнены, што "летні перыяд" каляндарнага года Янкі Брыля будзе карэктна назваць адпачынкам. Ды і ўвогуле, ці можна жыццё ў сталым узросце дзяліць на працу і адпачынак? Пэўна, гэта тая пара, калі ўсё ўжо ёсць разам, усё ўжо ёсць чыстым быццём.

Звычайна на ўсё лета з'язджае з Мінска на бацькаўшчыну ў вёску Гарошкі і паэт Анатоль Сыс. У выпадку з Анатолем Сысом так сама не скажаш, што ён паехаў адпачываць, бо Анатоль, здаецца, і ўзімку не лішне перапрацоўвае.

Затое немагчыма ўявіць без працы паэта Алеся Разанава. Не, фармальна, здараецца, ён бярэ адпачынак ці ўрочыць яго да нейкай замежнай вандроўкі, але па сутнасці гэта час вольны не ад працы, а толькі ад хаджэння ў рэдакцыю... Калі мне нехта скажа, што ён на свае вочы бачыў НЛА, то я яму ахвотна паверу, але калі мне нехта скажа, што ён бачыў, як Алесь Разанаў цэлы тыдзень адлежваў бакі на сочынскім пляжы, то я гэтаму празарліўцу далікатна параю — пратры свае вочы.

У адрозненне ад паэта Алеся Разанава, паэт Уладзімір Някляеў умее адпачываць. Перавагу аддае Кактэбелю, хаця не цураецца і нетрадыцыйных формаў адпачынку. Здаецца, пазалетась ездзіў з калісьці беларускім, а цяпер вядомым маскоўскім паэтам Ігарам Шклярэўскім на поўнач лавіць спінінгам ласося... Але нельга сказаць, што Уладзімір Някляеў, адпачываючы, заўсёды толькі адпачывае. Менавіта ў Кактэбелі ён скончыў вокамгненна набыўшую шырокую вядомасць паэму "Прошча".

Прага да "неўнармаваных" формаў адпачынку ёсць і ў драматурга Аляксея Дударава, інакш ён не набыў бы сабе гумавую лодку. Праўда, павандраваць на гэтай лодцы на якой з беларускіх рэчак у Аляксея Дударава пакуль не атрымліваецца. Але ж якраз з вопыту тэатра мы добра ведаем, што калі на сцяне ў першым акце вісіць стрэльба, то ў якім-небудзь з наступных актаў яна абавязкова стрэліць...

Любіць быць у адпачынку, але не любіць у адпачынку цягнуцца куды-кольвек з хаты паэт Леанід Дранько-Майсюк. Звычайна ён выпраўляе за сябе адпачываць сваіх сямейнікаў, а сам бавіць час у шчымлівай адзіноце. Між іншым, плённа бавіць. Менавіта ў пару аднаго з такіх адпачынкаў была напісана большасць вершаў са знакамітага цыкла "Вершы для А.".

Прыкладна гэтаксама, як паэт Дранько-Майсюк, адпачывае і паэтка Галіна Булыка. Яна таксама нікуды не выбіраецца з горада, відаць, ёй даволі толькі адсланіцца ад рэгламентаванага службай побыту, каб знайсці сабе спакой і адпачынак ў нерэгламентаванасці суб'ектыўных жаданняў і аб'ектыўных магчымасцяў.

Часам мне здаецца, што празаік Уладзімір Арлоў ніколі не працуе (альбо ніколі не адпачывае). Прынамсі, калі меркаваць па тых вандроўных нататках, якія ён раз-пораз друкуе ў розных перыёдыках. Не паспееш пазнаёміцца з яго ўражаннямі аб Англіі, як ён публікуе нататкі пра Амерыку. Ты яшчэ не скончыў чытаць пра Амерыку, а газеты ўжо поўняцца эсэ пра афрыканскія здарэнні Арлова. Пэўна, кожны, хто з Полацка, трохі Усяслаў Чарадзей. ("Усяслаў на кані паімчаў да горада Кіева і даткнуўся дзідай да кіеўскага залатога пасада. Адтуль скочыў зверам дзікім. Апоўначы з Белгарада ахутаўся сіняй імглой, а на раніцу, узняўшыся, браму стракалам адчыніў Ноўгараду, разбіў Яраслаўлеву славу і скочыў ваўком да Нямігі з Дудутак".)

Бадай, найбольш кансерватыўны ў сваіх поглядах на адпачынак паэт Леанід Галубовіч (праўда, апошнім часам ён стаўся заўважным і як празаік, за што сведчаць хаця б вынікі "Рэйтынга-ІІ"). Штолета, прыкладна ў адну і тую самую пару Леанід Галубовіч з сям'ёй выпраўляецца да маці ў вёску Вароніна і трывае там да апошняга вольнага дня. Нічога ў вёсцы не піша, ні вершаў, ні прозы. Косіць сена, рамантуе плот і ўсё, што за год абвалілася, гуляе з дачкой; гамоніць з вяскоўцамі, глядзіць на траву і неба... І ўсё нешта думае, думае...

Кансерватыўны (але ўжо не традыцыйны, як Галубовіч) у стаўленні да адпачынку і Сяргей Дубавец. Ужо гадоў дзесяць запар ён ладзіць вандроўкі на байдарках. Хутка рэчак на Беларусі не застанецца, па якіх ён бы не плаваў. І заўсёды ў адной байдарцы з ім паэтка Таццяна Сапач. Нічога дзіўнага ў гэтым няма — Таццяна Сапач яго жонка.

Празаік Адам Глобус нарадзіўся не на радзіме Усяслава Чарадзея (ён нарадзіўся ў Койданаве), але што да гойсання па свеце, то Адам Глобус мала чым адрозніваецца ад Уладзіміра Арлова. Праўда, калі апошні рэдка вяртаецца туды, дзе ўжо аднойчы быў, то Адам Глобус найменей як тройчы за апошнія тры гады адпачываў у Барселоне. Асабіста для мяне ў гэтым мала дзіўнага, бо і знешнім выглядам, і паводзінамі, і публікацыямі Адам Глобус вельмі нагадвае каталонскага тарэадора, які ўвесь час дражніць чырвонай анучай беларускіх бугаёў. Можа, яму і абыдзецца, а можа, аднойчы які і ўваткне рог у неабароненае месца...

* * *

Здаецца, хопіць. Бо, па-першае, пра ўсіх літаратараў усё роўна не распавядзеш, а па-другое — хто гэта будзе чытаць? Нават тыя, каго тут згадаў, наўрад ці прачытаюць. Лета. Адныя з'ехалі, другія пакуюць торбы, валізкі, плецакі... Шамацяць газеты, у іх спехам загортваецца ўсё тое, што можа пабіцца ў дарозе. Камячаць газеты літаратары, не маючы часу нават прагледзець, пра каго і што ў тых газетах панапісана.

# РЭЙТЫНГ II

Пісаць вершы для беларусаў, гэта як для італьянцаў есці макароны, а для малпаў скакаць па дрэвах — лічы экзістэнцыйная патрэба. Нездарма беларусаў называюць нацыяй паэтаў. Можа, таму яны так дрэнна і жывуць, што добра пішуць вершы. Яшчэ ні ў кога не атрымлівалася добра пісаць вершы і добра жыць. Альбо — альбо, як казаў слынны дацкі мысляр Кіркегар.

Уласна, я распачаў гаворку з паэтаў і паэзіі толькі дзеля таго, каб нагадаць, што праз першы Рэйтынг ("Культура", № 15) рабілася спроба вызначыць лепшыя паэтычныя публікацыі і кнігі 1996 года, — а паэтаманіяй беларусаў я паспрабаваў апраўдаць той факт, што рэйтынг тады як рэйтынг не атрымаўся, бо як вылучыць лепшыя публікацыі, калі іх, самых розных — мора (гэта тое самае, што з мора выбраць больш салёную кроплю).

З прозай сітуацыя ў нас адваротна іншая, і таму выбіраць асабліва няма з чаго. Усё лепшае і вартае ўвагі — навідавоку, і таму я меў пэўныя надзеі на рэабілітацыю за папярэдні канфуз. Не скажу, што мае спадзяванні цалкам спраўдзіліся і я займеў класічны рэйтынг, але сёе-тое ўсё ж такі атрымалася...

Аднак перад тым як пазнаёміць чытача з меркаваннямі экспертаў, я мушу заўважыць, што беларуская проза ведала і лепшыя часы. А ў 70-я гады, калі адначасна плённа і актуальна працавалі Васіль Быкаў, Янка Брыль, Уладзімір Караткевіч, Міхась Стральцоў, Анатоль Кудравец, Вячаслаў Адамчык, Іван Шамякін, Алесь Адамовіч, Іван Чыгрынаў, Віктар Казько, Віктар Карамазаў ды іншыя, — беларуская проза была самай моцнай сярод усіх нацыянальных літаратур Савецкага Саюза... Праўда, уся яна разгортвалася ў дыскурсе аднаго метаду і таму выглядала трохі аднастайна, але гэта была багатая аднастайнасць. Дарэчы, я згадаў пра "залатую пару" беларускай прозы не дзеля таго, каб настальгічна румзаць: як добра было тады і як дрэнна цяпер. Зусім наадварот. Гэтым успамінам я хачу сказаць, што калі мы маглі тады, то зможам і яшчэ калісьці, не сёння — дык заўтра.

А цяпер вернемся да нашых баранаў, як казаў Панург.

**Алесь АРКУШ**
1. Алесь Лукашук. "У фіялетавай ночы вугал крыла". Апавяданне. "Наша ніва".
2. Юры Станкевіч. "Збіральнік страху". Аповесць. "Крыніца".
3. Ігар Сідарук. "Як цётка Прузына нацыю шукала". Аповесць. "Калосьсе".

**Юрась БАРЫСЕВІЧ**
1. Уладзімір Арлоў. "Краявід з ментолавым пахам". Аповесць. "Крыніца".
2. Леанід Галубовіч. "Зацемкі з левай кішэні". "ЛіМ".
3. Ігар Цішын. "Нюра з намі". Апавяданне. "ЗНО" (літаратурна-філасофскі сшытак газеты "Культура").

**Пятро ВАСЮЧЭНКА**
1. Алесь Наварыч. "Дзённікі Рабункі". "Крыніца".
2. Уладзімір Арлоў. "Краявід з ментолавым пахам". Аповесць. "Крыніца".
3. Мікола Купрэеў. "Імгненне светлае". Аповесць. "Крыніца".

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**
1. Юры Станкевіч. "Збіральнік страху". Аповесць. "Крыніца".
2. Алег Ждан. Апавяданні. "Полымя".
3. Лідзія Арабей. "Калейдаскоп". Мініяцюры. "Лім".

**Ганна КІСЛІЦЫНА**
1. Юры Гумянюк. "Апосталы нірваны". Раман. "Калосьсе".
2. Мікола Купрэеў. "Імгненне светлае". Аповесць. "Крыніца".
3. Людміла Рублеўская. "Старасвецкія міфы горада Б." Апавяданні. "Крыніца".

**Уладзімір КОНАН**
1. Васіль Быкаў. "Палюбі мяне, салдацік". Аповесць. "Полымя".
2. Людміла Рублеўская. "Старасвецкія міфы горада Б.". Апавяданні. "Крыніца".
3. Іван Пташнікаў. "Французжанкі". Апавяданне. "ЛіМ".

**Людміла КОРАНЬ**
1. Алесь Наварыч. "Дзённікі Рабункі". "Крыніца".
2. Андрэй Гуцаў. "Містэрыя залатога веку". Апавяданне. "Крыніца".
3. Аляксей Крываносаў. "Трывіяльнае пытанне". Апавяданне. "ЛіМ".

**Ева ЛЯВОНАВА**
1. Уладзімір Караткевіч. Дзевяты (дадатковы) том васьмітомнага збору твораў.
2. Ірына Жарнасек. "Гадара". Апавяданні. "ЛіМ".
3. Васіль Быкаў. "Ружовы туман". Апавяданне. "Крыніца".

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**
1. Андрэй Федарэнка. "Сыч". Апавяданне. "ЛіМ".
2. Юры Станкевіч. "Збіральнік страху". Аповесць. "Крыніца".
3. Барыс Пятровіч. "Фрэскі". "Крыніца".

**Юры СТАНКЕВІЧ**
1. Уладзімір Арлоў. "Краявід з ментолавым пахам". Аповесць. "Крыніца".
2. Барыс Пятровіч. "Спакушэнне". Апавяданне. "ЛіМ".
3. Леанід Галубовіч. "Зацемкі з левай кішэні". "ЛіМ".

**Ала СЯМЁНАВА**
1. Леанід Галубовіч. "Зацемкі з левай кішэні". "ЛіМ".
2. Юры Станкевіч. "Збіральнік страху". Аповесць. "Крыніца".
3. Алена Васілевіч. "Пра вечнае". "ЛіМ".

**Міхась ТЫЧЫНА**
1. Мікола Купрэеў. "Імгненне светлае". Аповесць. "Крыніца".
2. Алесь Наварыч. "Дзённікі Рабункі". "Крыніца".
3. Віктар Казько. "Прахожы". "Полымя".

Ну і што мы атрымалі? На першым месцы, згадваецца чатыры (4) разы, аповесць "Збіральнік страху" Юрыя Станкевіча. Але нельга сказаць, што лідэрства "Збіральніка страху" надта пераканаўчае, бо па тры (3) разы згадваюцца аповесць "Краявід з ментолавым пахам" Уладзіміра Арлова, "Імгненне светлае" Міколы Купрэева, "Дзённікі Рабункі" Алеся Наварыча і "Зацемкі з левай кішэні" Леаніда Галубовіча.

Праўда, каб Юры Станкевіч быў нахабам, то як эксперт (ён загадвае аддзелам крытыкі ў часопісе "Маладосць") мог назваць і сваю аповесць сярод лепшых публікацый года. Для гэтага ён меў не толькі ўласна-амбіцыйныя, але і фармальныя падставы, бо за аповесць "Збіральнік страху" Юры Станкевіч стаў лаўрэатам часопіса "Крыніца" па намінацыі прозы. Апошняе толькі падмацоўвае лідэрства нашага лідэра і дадаткова сведчыць пра яго невыпадковасць. Праўда, я не выключаю, што "крынічанскае лаўрэацтва" хай сабе і па-за свядомасцю, цiснула на экспертаў і яны маглі ў нейкай ступені падпасці пад уплыў аўтарытэту выбару калектыву часопіса "Крыніца".

Здаецца, не лішнім будзе сказаць колькі словаў і з нагоды аповесці "Краявід з ментолавым пахам" Уладзіміра Арлова. Рэч у тым, што гэтая аповесць, так бы мовіць, ананімная. Чаму —"так бы мовіць"? Ды таму, што яе аўтар ніяк не пазначаны, а Уладзімір Арлоў выступае ў якасці "паштальёна", які перадае рукапіс у рэдакцыю "Крыніцы". Праўда, для кожнага, хто хоць трохі абазнаны ў літаратуры і знаёмы з прозай Уладзіміра Арлова, не складае цяжкасці "вылічыць" рэальнага аўтара, тым болей, што перад намі не сапраўдная містыфікацыя, а гульня ў містыфікацыю, дзе аўтар, хаваючыся, хоча быць пазнаным. Але я не выключаю, што гэтая гульня ў хованкі адняла ў аповесці "Краявід з ментолавым пахам" некалькі "галасоў"... Зрэшты, усё гэта рэфлексіі, з якіх можна рабіць самыя супрацьлеглыя высновы. А мы маем рэальны вынік, і хаця класічная іерархія з яго як быццам не выбудоўваецца, але відавочна, што згаданая група тэкстаў у большай меры за якія іншыя адлюстроўвае здабытак беларускай прозы ў 1996 годзе.

Дарэчы, мушу звярнуць увагу яшчэ на адну акалічнасць: за выключэннем "Зацемак з левай кішэні" Леаніда Галубовіча, якія ён пераважна друкуе ў "ЛіМе", усе астатнія тэксты-лідэры з'явіліся ў "Крыніцы", а ўвогуле "Крыніца" згадвалася 18 разоў, нават значна больш, чым у "паэтычным рэйтынгу", хаця і там яна істотна апярэджвала "ЛіМ", які быў на другім месцы — не кажучы пра ўсе астатнія газеты і часопісы, як дзяржаўныя, так і прыватныя. І таму я не выключаю, што ў нейкай меры вызначаныя рэйтынгам тэксты абавязаны сваім вылучэннем не толькі таленту іх аўтараў, а і часопісу "Крыніца", у якім яны былі надрукаваныя. Хто ведае, ці звярнулі б на іх тую самую ўвагу, каб яны з'явіліся ў нейкім іншым выданні. Напэўна, яны і там не засталіся б незаўважанымі, бо гэта таленавітыя працы, але ці была б цікавасць да іх адпаведнай?..

***Анонс: Рэйтынг-III будзе прысвечаны лепшым перакладам 1996 года.***

**P.S.** Эксперт Ала Сямёнава была вельмі засмучана, што наша гульня ў рэйтынг дазваляе называць толькі тры публікацыі. Ну і ніяк у гэтую колькасць (3) не ўціскаліся лепшыя, з яе меркаванняў, публікацыі 1996 года. Але правілы на тое і правілы, каб быць аднолькавымі для ўсіх. Таму я магу толькі па-за рэйтынгам згадаць яшчэ два апавяданні, якія запалі ў сэрца вядомаму крытыку, гэта — "У прымрак самоты, у звабны адчай" (Вольга Куртаніч, "Маладосць") і "Познія яблыкі" (Анатоль Кудравец, "Полымя").

# ГІСТОРЫЯ КНІГІ

### 3. Якім альфабэтам карысталіся Адам і Ева?

Мінулым разам ("Культура" № 15) аповед пра гісторыю кнігі быў перапынены на пытанні альфабэту, якім карысталіся Адам і Ева, калі ад вуснапаэтычнай творчасці ў Эдэме перайшлі, пасля выгнання з Эдэма, да стварэння кніг, гэта значыць пачалі займацца літаратурай прафесійна.

Як я ўжо казаў, навукоўцы ў свой час (прыкладна XVI —XVIII стст.) высветлілі, што Адам як найменей напісаў 12 кніг і дзве кнігі напісала Ева. Паколькі арыгіналаў (як і копіяў) гэтых кніг ніхто не бачыў, то ніхто дакладна і не ведаў, якімі літарамі яны былі напісаныя. Праўда, гэтае няведанне не замінала выснoўваць самыя розныя версіі і гіпотэзы, але мы на іх не будзем спыняцца, бо, як высветлілася пазней, усе яны былі памылковымі.

Вядома, *напісанае застаецца*, гэта значыць, патрапіць камусьці на вочы. Так яно было і ў нашым выпадку. Аднойчы ў самым глухім закутку ватыканскай бібліятэкі нейкі няўрымслівы бібліёграф адшукаў некалькі "балванак" з нікому не вядомым алфавітам, але з тлумачэннем пад ім, што тут выразаныя тыя самыя літары, якімі карысталіся Адам з Евай.

Біблейскі алфавіт быў адразу надрукаваны, і навукоўцы сталі яго расчытваць. Найбольшага плёну ў гэтай справе здабылі італьянец Анджэла Рока, ангелец Джэймс Хэпбёрн і немец Лаўрэнцій Шрадэр (між іншым, дарадца Фердынанда І). І хаця вынікі іх даследзінаў не супадаюць паміж сабой, гэта ўжо не мела асаблівага значэння. Істотны быў сам факт: адамаў (евін?) альфабэт — рэальнасць, а значыць рэальнасць і тыя кнігі, што яны напісалі. А тое, што ніхто іх не бачыў, — не аргумент. Нікому яшчэ не патрапіў на вочы арыгінал "Слова пра паход Ігаравы", але апошняе зусім не замінае нам лічыць гэтае "Слова" першым геніяльным творам беларускай і казахскай (гл.кн. Алжаса Сулейменава "Аз і Я") літаратур.

Ды што там бачылі — не бачылі адзіны рукапіс. Ніхто акрамя двух чальцоў навуковай экспедыцыі, якую папа Грыгорый XIII (1572 — 1585) спецыяльна паслаў у Абісінію, не бачыў бібліятэкі царыцы Саўскай, дзе былі нават кнігі Аўраама (па філасофіі) і Ноя (па матэматыцы). Аднак колькі пра гэтую бібліятэку гаварылася і пісалася ў свой час!..

Слушна некалі сказаў знакаміты рускі філосаф К.Пруткоў: "Не давай веры вачам сваім". Не давай веры — калі бачыш, і не давай — калі не бачыш. Зоры кожную ноч зіхацяць на небе, а анёла нават днём не ўгледзіш. Але з гэтага хіба адно цемрашал стане рабіць выснову, быццам зоры існуюць папраўдзе, а анёлы — толькі ў нашым уяўленні. І калі той цемрашал скажа мне:

— А хто анёла пальцамі мацаў?

Дык я яму ў адказ тое самае скажу:

— А хто зоры пальцамі мацаў?


HISTRIO-MASTIX.
THE
PLAYERS SCOVRGE,
OR,
ACTORS TRAGÆDIE,
Divided into Two Parts.
Wherein it is largely evidenced, by divers Arguments, by the concurring Authorities and Resolutions of sundry texts of Scripture; of the whole Primitive Church, both under the Law and Gospell; of 55 Synodes and Councels; of 71 Fathers and Christian Writers, before the yeare of our Lord 1200; of above 150 forraigne and domestique Protestant and Popish Authors, since; of 40 Heathen Philosophers, Historians, Poets; of many Heathen, many Christian Nations, Republiques, Emperors, Princes, Magistrates; of sundry Apostolicall, Canonicall, Imperiall Constitutions; and of our owne English Statutes, Magistrates, Universities, Writers, Preachers.
That popular Stage-playes (the very Pompes of the Divell which we renounce in Baptisme, if we beleeve the Fathers) are sinfull, heathenish, lewde, ungodly Spectacles, and most pernicious Corruptions; condemned in all ages, as intolerable Mischiefes to Churches, to Republickes, to the manners, mindes, and soules of men. And that the Profession of Play-poets, of Stage-players; together with the penning, acting, and frequenting of Stage-playes, are unlawfull, infamous and misbeseeming Christians. All pretences to the contrary are here likewise fully answered; and the unlawfulnes of acting, of beholding Academicall Enterludes, briefly discussed; besides sundry other particulars concerning Dancing, Dicing, Health-drinking, &c. of which the Table will informe you.
By WILLIAM PRYNNE, an Vtter-Barrester of Lincolnes Inne.
[illegible]
LONDON,
Printed by E. A. and W. J. for Michael Sparke, and are to be sold at the Blue Bible, in Greene Arbour, in little Old Bayly. 1633.

Тытульны аркуш кнігі У.Прына.

### 4. Імя тэкста

Кнігу можна і не чытаць, але немагчыма не прачытаць назву, калі кніга табе патрапіла на вочы. Ды і ўвогуле, большасць кніг мы ведаем толькі па назвах, а не па змесце. І гэта зусім правільна. Па-першае, дзе ўзяць столькі часу і ахвоты, каб прачытаць усе вартыя кнігі, а па-другое — па вялікім рахунку ўсе кнігі адрозніваюцца паміж сабой толькі словамі на вокладках.

Кожная эстэтычная эпоха (як што эпоха — кожнае літаратурнае дзесяцігоддзе) мела сваю, адметную стылістыку назоваў. Але ў гэтым сэнсе з усіх часоў вылучаецца эпоха барока. У тую пару назвы кніг па колькасці словаў пераўзыходзілі сучасныя невялікія апавяданні, а змесцу ў іх было болей, чым у тэксце, які яны прэзентавалі. Паколькі ні адну з такіх назваў-гігантаў я тут прывесці не магу, бо не застанецца месца майму ўласнаму тэксту, то для дэманстрацыі стылю назваў эпохі барока падбяром што-небудзь шляхетна-стрыманае, ну, да прыкладу, назву кнігі беларускага філосафа XVII ст. Андрэя Мужылоўскага:

АНТЫДОГ
высакароднаму народу рускаму, альбо сродак супраць напоўненай атрутай Аналогіі, якую выдрукаваў Мялецій Смятрыцкі, памылкова абвінавачваючы рускую праваслаўную царкву ў ерасі і схізме, для некаторых пісьменнікаў, тэрмінова падрыхтаваны і прадстаўлены Андрэем Мужылоўскім, пратапопам княства Слуцкага і Капыльскага... Надрукавана ў 1629 г.

Неяк Ламброза пакрытыкаваў аднаго пісьменніка за тое, што назва яго кнігі была запісаная ў 18 радках. Але для эпохі барока назва ў 18 радкоў — гэта ўсяго прыкмета ляноты аўтара. Сапраўды працавітага літаратара тады ў аб'ёме назвы стрымлівалі толькі памеры вокладкі — колькі словаў можна было ўціснуць на вокладку, столькі і ўціскалі. Скажам, Уільям Прын напхаў у авантытул кнігі, выдадзенай у 1633 годзе ў Лондане, 43 радкі назвы (колькасць словаў я нават не бяруся падлічваць). Апошнія радкі, натуральна, каб болей улезла, былі надрукаваныя такім дробным шрыфтам, што іх можна было прачытаць хіба толькі пад мікраскопам.




Алфавіт Адама згодна Хэпбёрна, Шрадэра і Рока.

Тэмы, сюжэты, кампазіцыі назваў той пары настолькі адмысловыя і разнастайныя, што вартыя бясконцай гаворкі, але я згадаю толькі пра адну з іх, і зусім не таму, што яна найбольш адметная, а ўсяго таму, што нагадала мне наш літаратурны рух Бум-Бам-Літ. У 1650 годзе Сікс Балдрыян Бурмшнайдэр выдаў кнігу з наступнай назвай:

"Трах-бах, трам-та-та-там, та-та-та-та!

Што здарылася?

Дзеля чаго гудуць у трубы і грукочуць у бубны?

А дзеля таго, што паўзуць з усіх бакоў агідныя казюркі, падобныя да чарвякоў ці прусакоў".

З элегічным сумам узіраюся я на вокладкі эпохі барока. Ах, які быў час, якая пара! Нішто не стрымлівала чалавека ні ў думках, ні ў пачуццях, ні ў словах. І чаму ўсё гэта скончылася? У апошнім, развітальным выпуску літаратурна-філасофскага сшытка "ЗНО" газеты "Культура" (№ 6, люты 1997 г.) Людміла Крушынская назвала свой тэкст адной літарай "ў". Ад сарака трох радкоў назвы кнігі Уільяма Прына — да аднаго знака ў Людмілы Крушынскай... Вось такая эвалюцыя! Як кажуць, прыехалі, далей, здаецца, няма куды. Хаця той знак "ў" быў з "хвастком" наверсе, з чаго вынікае, што яшчэ ў некага ёсць шанец прасунуцца на паўкрока наперад, да аднаго, так бы мовіць, ужо чыстага, без усялякіх там "хвасткоў", знака.

*(Працяг будзе.)*

**Аўтар Трыбуны "Л" Валянцін АКУДОВІЧ**

БЕЗ ДЭКОРУ

## ЯК САЦРЭАЛІЗМ ПЕРАМОГ БЕЛАРУСЬ



# ЖДАНАЎШЧЫНА І "НАДЗЬМУТЫЯ РАЗМАЛЯВАНЫЯ БУРБАЛКІ"

### Артыкул чацвёрты

Было такое — і пасля Вялікай Айчыннай. Надзеям на тое, што грамадства пасля Перамогі будзе дыхаць вальней, не наканавана было спраўдзіцца. Людзі, якія вызвалілі Еўропу, аказаліся несвабоднымі ва ўласным доме на ўласнай вуліцы. Як выславіўся Іосіф Бродскі ў вершы "На смерць Жукава", "смело входили в чужие столицы, но возвращались в страхе в свою". Гэты "страх" у інтэлектуалаў і ў іхніх ідэях з'явіўся адразу ж пасля вайны. Спачатку "выправілі" і паставілі на месца "разбэшчаных" філосафаў, біёлагаў, мовазнаўцаў, эканамістаў, гісторыкаў. Потым надышла чарга літаратуры і мастацтва.

У жніўні 1946-га "ўдарылі" па рэпертуарах драматычных тэатраў краіны за тое, што ў іх недастаткова спектакляў "на савецкія тэмы", а тыя, што ёсць, з'яўляюцца слабымі, безыдэйнымі: савецкія людзі паказваюцца ў іх прымітыўнымі і малакультурнымі. Справа дайшла да кінематографа, дзе першы ўдар прыняў на сябе Сяргей Эйзенштэйн за фільм "Іван Жахлівы". Яго абвінавацілі ў невуцтве, маўляў, ён як рэжысёр "адышоў ад гісторыі, уклаў нешта сваё, адлюстраваў нейкіх дэгенератаў-апрычнікаў, не зразумеў, што апрычнікі былі прагрэсіўнымі элементамі, не зразумеў значэння рэпрэсій... Да прыкладу, Іван Жахлівы. Мы ведаем, што гэта быў чалавек з моцнай воляй і характарам. А нам паказаны ці то Гамлет, ці то нейкі забойца".

У 1948 годзе пачалі кардынальную перабудову ў музычнай справе. Спачатку зламалі Мурадэлі, затым — Пракоф'ева, Шастаковіча, Стравінскага, Хачатурана, Мяскоўскага і іншых прадстаўнікоў "фармалістычнага, антынароднага" накірунку. Шмат каму са знакамітых музыкантаў было забаронена выкладаць. Забаронена была нават музыка... Дэбюсі, Равеля, Малера. Адпаведна гэта "адгукнулася" і на "малодшых братах-беларусах".

Ва ўсіх беларускіх творчых арганізацыях прайшлі партыйныя сходы, мэтай якіх было, з аднаго боку, адзінадушна падтрымаць пастанову ЦК ВКП(б) ад 10 лютага 1948 года "Пра оперу "Вялікае сяброўства" В.Мурадэлі, а з другога — зганьбіць "новаспечаных" фармалістаў у музыцы.

На партсходзе 16 лютага ў Оперным тэатры адзначалася, што на "творах беларускіх кампазітараў Я.Цікоцкага, Д.Лукаса, А.Багатырова... бачны ўплыў фармалістаў Шастаковіча, Пракоф'ева, Мяскоўскага... Калі яны хочуць, каб спевакі ахвотна выконвалі іхнія творы, яны павінны пайсці па іншым творчым накірунку...". І Цікоцкі, і Лукас, і Аладаў, і Залатароў, і Падкавыраў, і Абеліёвіч, якія трапілі пад навалу крытыкі, адразу ж "прызналі" свае памылкі і паабяцалі "пайсці па іншым творчым накірунку".

Атрымала сваё і беларуская архітэктура. Лаялі праекты Лангбарда, Воінава, Вараксіна, Гусева за "рысы трафарэту, утылітарызму, захапленне аднастайнымі, спрошчанымі формамі". Адначасова за "фармалістычныя хітрыкі" былі аблаяныя і літаратары — А.Вялюгін, М.Калачынскі, А.Куляшоў, А.Астрэйка, А.Бачыла.

А 16 жніўня 1947 года справа дайшла і да пластычных мастацтваў, калі "ЛіМ" перадрукаваў перадавы артыкул "Праўды" пад назвай "Да росквіту савецкага выяўленчага мастацтва". У гэтым матэрыяле адзначалася, што разам з мастацтвам сацрэалізму існуюць плыні, "прадстаўленыя прыхільнікамі буржуазнага дэкадэнцкага мастацтва, якія лічаць сваімі духоўнымі настаўнікамі французскіх фармалістаў Пікаса і Матыса, кубістаў, мастакоў фармалістычнай групы "Бубновы валет...".

Перафразуючы вядомы афарызм, чую: "калі фармалізму на Беларусі не было, яго трэба было вынайсці". Справа гэта цяжкая, але... вынайшлі... у асобе Мікалая Тарасікава, Яўгена Красоўскага, Натана Воранава, мастакоў высокай пластычнай культуры.

З выступлення Яўгена Зайцава: "Тое, што фармалізм прысутнічае ў нашым жывапісе, — факт... Доказам гэтага служыць тое, што большасць з нас у свой час скончылі мастацкія ўстановы ў перыяд панавання фармалістаў у навучальнай працы..." У дужках заўважу, што праз шмат гадоў Яўген Аляксеевіч ганарыўся менавіта тым, што быў вучнем "фармаліста" Асьмёркіна!

З "перлін" начальніка Упраўлення па справах мастацтваў БССР Паўла Лютаровіча: "Няскончаны твор з'яўляецца апалітычным". І яшчэ: "Калі глядзіш на партрэт выдатнай даяркі пэндзля Воранава, дык думаеш: а колькі яна крадзе штодзень у калгасе малака?"

З прамовы аргсакратара Саюза мастакоў СССР Х.Ушэніна: "Памылкі метаду Пластава маюць заўважнае распаўсюджанне ва ўсім беларускім мастацтве; на дадзеным этапе Пластаў разумее мастацкі метад як капіраванне з'яў жыцця без кіруючай жыццёвай ідэі", "Саюз мастакоў БССР слаба змагаецца з праявамі фармалізму, са спадчынай асьмёркаўшчыны ў творчасці асобных беларускіх мастакоў".

І адначасова, як пісаў Павел Масленікаў, "пасляваеннае дзесяцігоддзе з'явілася самым плённым у творчасці мастакоў Беларусі і самым знамянальным у стварэнні манументальных палотнаў. Яно сведчыць пра перамогу мастацтва сацыялістычнага рэалізму — мастацтва новага жыцця савецкага грамадства, што ідзе да камунізму". Меліся на ўвазе творы, адзначаныя прэміямі, "народнай удзячнасцю", ухвальнымі артыкуламі. Мы ведаем, якімі былі гэтыя палотны, што нагадваюць надзьмутыя размаляваныя бурбалкі — і ў вочы б'юць, і ў сярэдзіне штосьці грукае, але грукае ў пустаце. Гэтых "размаляваных бурбалак", скручаных на барабан, сёння ў сховішчах Нацыянальнага мастацкага музея не адна сотня. Можа, калі-небудзь мы зможам іх пабачыць на якойсьці выставе таталітарнага мастацтва?

Пра што былі гэтыя творы? Пра самыя розныя аспекты "нашай бурлівай рэчаіснасці", але, у асноўным, яны прысвячаліся Сталіну: як той сустракаўся ў Разліве з Леніным — І.Ахрэмчык, М.Чураба, В.Бялыніцкі-Біруля, як "сумаваў" у Туруханскай высылцы — В.Цвірко і С.Лі, як ствараў "Искру" — П.Гаўрыленка, як "знаходзіўся" то ў Смаленску — Я.Красоўскі, то ў Смольным — П.Раманоўскі, то на Каўказе — С.Раманаў, то... у Мінску — Я.Зайцаў, то "думку думаў" ля маўзалея — І.Давідовіч...

Мастак і час... Што ж думаў мастак пра свой час?

Андрэй Бембель: "На заклік партыі мы адказваем яшчэ больш глыбокім вывучэннем геніяльных тэарэтычных твораў таварыша Сталіна, разгортваннем сапраўднай партыйнай крытыкі і самакрытыкі ў нашай арганізацыі".

Іван Ахрэмчык: "Выдатныя поспехі ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы, у галіне літаратуры і мастацтва, — усё гэта звязана з імем Сталіна. Мастак, адлюстроўваючы савецкіх людзей, паказвае і ўхваляе рысы, уласцівыя сталінскай эпосе. Толькі ў гэтым — сакрэт сапраўднага вялікага мастацтва".

Міхаіл Керзін: "Выключныя клопаты, якімі атачае... асабіста таварыш Сталін вядомых мастакоў, з'яўляюцца пацверджаннем таго, што неўзабаве надыдзе час, калі савецкае мастацтва — самае перадавое, самае прагрэсіўнае ў свеце — дасць творы, якія далёка пераўзыдуць класічныя ўзоры не толькі па змесце, але і па сваёй новай, дасканалай форме".

А вось яшчэ некалькі фрагментаў з рубрыкі "Мастак і час":

Уладзімір Кудрэвіч: "Я значна пашырыў свой кругагляд пасля таго, як пачаў рэгулярнае вывучэнне "Кароткага курса гісторыі ВКП(б)". Гэта вельмі дапамагло ў маёй творчай працы..."

Павел Гаўрыленка: "Гэты класічны твор ("Кароткі курс гісторыі ВКП(б)". — **Б.К.**) дае моцную ўпэўненасць у творчай працы. Мастакі непасрэдна ў сваёй творчасці звярталіся да гэтай энцыклапедыі ведаў марксізму-ленінізму. У гады Вялікай Айчыннай вайны мастакі... неадной звярталіся да "Кароткага курса гісторыі ВКП(б)". Лепшыя мастакі ўзялі на сябе адказную задачу — паказаць... жыццё і дзейнасць вялікага Сталіна... Гэта патрабуе насычанай пастаяннай працы не толькі над вывучэннем біяграфіі І.В.Сталіна, але і сур'ёзнага і ўдумлівага вывучэння "Кароткага курса гісторыі ВКП(б)", які дае мастаку галоўнае і асноўнае кіраўніцтва ў творчых пошуках".

У гэты ж час у рэзалюцыі II з'езда мастакоў Беларусі (красавік 1948 г.) адзначалася, што праўленне "не займалася



*Беларускія мастакі слухаюць аднаго з лідэраў сацрэалізму, пяціразовага лаўрэата Сталінскай прэміі, акадэміка Васіля Яфанава. Злева направа: В.Яфанаў, Г.Маеўская, Р.Кудрэвіч, І.Ахрэмчык, А.Волкаў, К.Касмачоў. 50-е гады.*

<u>*Шоу працягваецца*</u>

# ...КАБ ВЫРАБЛЯЦЬ МЁД!

***Папулярны герой мультфільма неяк зазначыў: "Навошта на свеце пчолы? — Ды для таго, каб выратбляць мёд!" Прадзюсерскі цэнтр "Gold Bee" ("Залатая Пчала") менавіта тым і займаецца — вырабляе "мёд" салодкіх шоу для мінчукоў. А мы працягваем знаёміць нашых зацікаўленых чытачоў з тым, як працуюць на Беларусі арганізатары канцэртных праграм (гл. артыкул "Сталічны ўзровень абласной філармоніі", "К", № 16, 1997)***

***Да гэтага часу, нягледзячы на ўжо немалую гісторыю прадпрымальніцтва на Беларусі, прыватны бізнес (маю на ўвазе лепшы сэнс гэтага англіцызму, які азначае дакладна "справа") у галіне арганізацыі шоу застаецца нечым экзатычным. Канцэртнай дзейнасцю больш-менш паспяхова ў нас па-ранейшаму займаюцца адміністратары філармоній ці іншых дзяржаўных установаў культуры, і займаюцца адпаведна — па службовым абавязку. Што адрознівае прыватных прадзюсераў, дык гэта — хуткае рэагаванне на змены сітуацыі на рынку "забаўляльнай індустрыі", асаблівая ўвага да тых з'яваў, якія цікавыя для маладзёжнай аўдыторыі. Часцей за ўсё, аднак, энтузіязму і прафесіяналізму "прыватнікаў" хапае на адзін-два канцэрты. "Gold Bee" ў гэтым сэнсе выключэнне. За чатыры гады існавання прадзюсерскі "дуэт" здолеў арганізаваць безліч гастрольных выступленняў самых разнастайных "зорак". Напрасіўшыся на сустрэчу, я, мяркуючы па вядомых фактах, чакаў убачыць хутчэй за ўсё сталых жанчын з вялікім жыццёвым вопытам і залішняй вагой. Чаканне не спраўдзілася, Вольга і Карына аказаліся маладымі дзяўчатамі, якіх па знешніх дадзеных лягчэй за ўсё ўявіць на подыуме ў якасці "топ-мадэляў", чым лідэрамі такой няпростай справы, як арганізацыя шоу.***

**— З чаго вы пачыналі і з кім з выканаўцаў ужо працавалі?**

— Прасцей сказаць, з кім мы не працавалі! А пачыналі з дзвюх праграм, на якіх меркавалася стварыць схему шоу, якое мы назвалі "экзотык-шоу". У першай з гэтых праграм удзельнічалі Барыс Маісееў са сваім трыо "Экспрессия", дуэт "Полиция нравов" і Сасо Паўліяшвілі. У другой мы зрабілі "нарэзку" блокаў з праграмы Ірыны Оціевай "240 тонн удовольствия". Поспех быў, але былі і першыя высновы.

**— Гэта значыць, пачалося фармаванне "прафесійнага крэда"? І як бы вы яго акрэслілі?**

— Некаторыя з прафесіяналаў у гэтай справе падтрымліваюць меркаванне, што з артыстамі патрэбна мець выключна прафесійныя дачыненні. Мы ставімся да гэтага інакш. На нашу думку, з артыстамі трэба сябраваць. Мы заўсёды імкнемся ўнесці душэўнасць у адносіны з запрошанымі выканаўцамі. Вялікіх зорак цяпер нельга ўразіць ці "завабіць" ні вялікімі ганарарамі, ні супер-канцэртамі. Але мы ведаем, чаго ім заўсёды не хапае — гэта таго, што мы і лічым сваім абавязкам ствараць, — унутранага камфорту. Выканаўца павінен думаць толькі аб тым, каб выступіць як мага лепш, а наша справа — забяспечыць усё неабходнае для гэтага. Схема дачыненняў, якую мы будуем, павінна быць такой, каб абодва бакі — і артысты, і мы — адчувалі сябе камфортна.

**— Але ж, мяркую, што тычыцца дзелавога боку любога канцэрта, то вам даводзіцца мець справу не столькі з артыстамі, колькі з іхнімі дырэктарамі?**

— Мы маем справу з творчым калектывам, гэта значыць, з камандай, якую складаюць артысты і дырэктар ці дырэктары. Тут, як і ў любой справе, кланавасць — галоўны пастулат.

**— Ці заўсёды гэтыя "кланы" падзяляюць вашу прыхільнасць да душэўных стасункаў?**

— Быў выпадак — з групай "На-на" — калі мы адчулі шэраг перашкодаў менавіта з-за жорсткіх "звыш-дзелавых" умоваў кантракта. Але ў рэшце рэшт перамог наш падыход, развіталіся пасяброўску.

**— У канцэртнай дзейнасці як ні ў якой іншай, вялікая спакуса — выкарыстоўваць спонсарскую дапамогу. Якім чынам**

пытаннямі ідэйна-палітычнага засваення класічнай спадчыны, асабліва рускага выяўленчага мастацтва..., не вывучала і не развівала яганыя лепшыя рэалістычныя традыцыі..."

"Я прыйшоў да высновы, — казаў прэзідэнт Акадэміі мастацтваў Аляксандр Герасімаў падчас сустрэчы з беларускімі мастакамі 3 ліпеня 1948 года, — што вы кепска выкарыстоўваеце вопыт па стварэнні карціны. У вас умоўны, шэры тон. Адкуль жа ён бярэцца? Жыццё нашае радаснае, светлае, аптымістычнае, значыць, — не шэрае. Дык вось, трэба верыць не розным фармалістычным тэорыям, а ўласнаму вопыту: пішы тое, што бачыш, а не тое, пра што не ведаеш... На Украіне мастакі гэта добра зразумелі, таму і вынікі ў іх станоўчыя".

"Памылкі" ў сваёй арганізацыйна-творчай працы беларусы хутка ўсвядомілі, і ўжо праз чатыры гады, 8 лютага 1952 года, старшыня Саюза мастакоў А.Бембель змог з гонарам канстатаваць: "За апошнія тры гады тэмп развіцця жывапісу быў настолькі хуткім і магутным, што нельга без вялікага пачуцця задавальнення не адзначыць яго як вынік перамогі сацыялістычнага рэалізму, што знамянуе сабой новую, вышэйшую ступень у мастацкім развіцці чалавецтва. Задачы, што паставіў таварыш Жданаў, ужо ўшчыльную наблізілі да старых рускіх майстроў такіх выдатных савецкіх мастакоў як Яфанаў, А.Герасімаў, Сакалоў-Скаля, Налбандзян, У.Сяроў..."

Каментарыі тут непатрэбныя. Але ўсё ж такі папытаюся ў гісторыі мастацтва: дзе сёння творы гэтых "выдатных"? Гісторыя, безумоўна, адкажа: у сховішчах і ў запасніках. Чакаюць свайго часу? Хто ведае, куды павернецца заўтра нашая непрадказальная мастацкая Фартуна?

**Барыс КРЭПАК**

# КАРАВАН-БАЙРАМ

***Напярэдадні новага татарскага свята "Караван-Байрам" наш спецыяльны карэспандэнт сустрэўся з кіраўніком татарскай дыяспары "Аль-Кітаб" Ібрагімам КАНАПАЦКІМ.***

**— Спадар Ібрагім, з чаго пачалася дзейнасць Вашай дыяспары?**

— Тут трэба пачаць размову пра 80—90-я гады, калі дзяржава ставіла задачу асімiляраваць усе народы, якія жылі на тэрыторыі Беларусі і суседніх рэспублік, у адно цэлае — зрабіць адзіны савецкі народ. Але, канечне, хочаш не хочаш, мы па нацыянальнай прыкмеце адзін аднаго ведалі. І дзякаваць Богу, што ў пашпарце запісвалі нацыянальнасць. Нацыянальная ідэя ніколі не пакідала нацыянальнасвядомых людзей, у першую чаргу інтэлігенцыю. І калі з'явілася магчымасць ствараць розныя арганізацыі, мы гэткую магчымасць скарысталі — напрыканцы 80-х гадоў. Фактычна стварэнню нацыянальных дыяспар паспрыяў 1989 год, калі адбыўся ў верасні пленум ЦК КПСС — тады была прынята "платформа" КПСС па нацыянальным пытанні. Гэта вельмі здзіўляе, бо камуністычная партыя заўсёды змагалася са стварэннем арганізацый паводле нацыянальнай прыкметы. Праўда, у тыя часы мы не здолелі арганізаваць нешта рэспубліканскае, бо занадта актыўная дзейнасць некаторых членаў нашага згуртавання напужала тагачасных кіраўнікоў Фонду культуры. Яны прытармазілі ўзнікненне буйной рэспубліканскай арганізацыі і "параілі" нам утварыць спачатку гарадскія арганізацыі. Так з'явіліся гарадскія арганізацыі ў Гародне і ў Менску. Пад агульнай назвай "Аль-Кітаб". І толькі 23 чэрвеня 1991 года на з'ездзе ў Іўі мы ўжо дэкларавалі аб утварэнні адной вялікай арганізацыі.

**— Не маглі б Вы патлумачыць, у чым сутнасць новага свята?**

— "Караван-Байрам" — вынаходка цэнтра нацыянальных культур. Гэтую вынаходку беларускія татары прынялі. А наогул, мы маем мала сваіх нацыянальных святаў — буйных толькі два: "Рамазам-Байрам" і "Курбам-Байрам". Што датычыцца "Караван-Байрама", то гэтым святам мы мяркуем узняць нацыянальны дух татарскага народа, паказаць, што мы на гэтай зямлі не госці, а карэнныя жыхары. Па вызначэнні ЮНЕСКО той народ, які жыве на зямлі больш за 500 гадоў з'яўляецца карэнным, а мы жывем ужо на Беларусі 600 гадоў. Унікальная з'ява ў гісторыі. Гвалтаванне нашага народа, разбурэнне святынь прывялі да мяжы знікнення беларускіх татараў як этнасу. Таму мы паставілі перад дыяспарай задачу: падняць дух народа. Бо мы абавязаны пераканаць у першую чаргу сябе, што таксама можам людзьмі звацца.



**— А якія сувязі Вы маеце з Татарстанам?**

— На жаль, толькі на ўзроўні асабістых кантактаў. Напрыклад, да нас часта прыязджае паэт Фаіз Фаязаў. Пад уражаннем беларускіх краявідаў ён напісаў выдатную паэму "Пра Эулію". Я думаю, было б варта напісаць да яе музыку, бо адчуваецца, што тэкст гэтага патрабуе. Дарэчы, гэтая паэма была перакладзена на беларускую мову паэтам Яўгенам Гучком і надрукавана ў нашым квартальніку "Байрам" за 1994 год.

**— А што яшчэ вы друкуеце ў гэтым выданні?**

— Многае. Матэрыялы па гісторыі, рэлігіі... Наклад часопіса невялікі — 200 экзэмпляраў. Грошай не хапае проста катастрафічна. Таму выданне пакуль не зарэгістравана.

**— Распавядзіце, калі ласка, пра мінскую мячэць, што была пабудавана ў 1599 годзе.**

— Гэта адзіная мураваная мячэць, што была на Беларусі, але, на жаль, у 60-я гады яна была зламаная. У 1936 годзе тагачасныя ўлады зрабілі з яе харчовы склад. У вайну, калі прыйшлі на Беларусь немцы, яны дазволілі вернікам хадзіць у мячэць. Пасля вайны мячэць спачатку прыціснулі падаткамі, а потым забралі ва ўласнасць дзяржавы. Пазней зрабілі там марскі клуб. А праз нейкі час вырашылі зруйнаваць. Сёння мы зноў хочам пабудаваць мураваную мячэць, але для гэтага патрэбны грошы. Я звяртаюся да ўсіх мусульман і добрых людзей! Патрэбна дапамога! Вашы ахвяраванні на будаўніцтва мусульманскага храма можна пералічыць на разліковы рахунак Беларускага Згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб" N 3015206320013 у АКБ Беларускі Біржавы Банк у Мінску, код 781. Можна зрабіць пазнаку "Будаўніцтва мячэці".

**Гутарыў Зміцер ВОЛКАЎ**

*На ілюстрацыях: так выглядала мячэць у Мінску на Вялікай Татарскай вуліцы; макет мінскай мячэці.*



# АЧЫШЧЭННЕ ВАСЬМІНОГА

У галерэі "Шостая лінія" адкрылася міжнародная выстава праектаў сучаснага мастацтва "Традыцыі і эксперыменты". Адразу падкрэслю, што дадзеная выстава адметная ўжо толькі сваім існаваннем — не кожны дзень мы можам пабачыць працы творцаў замежжа.

Як заўважылі куратары экспазіцыі Эўлалія Даманоўска (Варшава) і Вольга Капёнкіна (Мінск), яны не ставілі перад сабой мэты стварыць нешта канцэптуальнае, бо кожны прадстаўлены твор сам па сабе канцэптуальны. Тут я мушу пагадзіцца з гэтымі заўвагамі — сапраўды, "Традыцыі і эксперыменты" нагадваюць вялізнага васьмінога, дзе кожнае шчупальца жыве незалежна ад астатняга арганізма. І гэта цікава.

Уражваюць працы італьянца Луіджы Пазатэлі (1926 — 1994). Графічнасць ягоных тэкстаў нібыта фіксуе ўсе рытмы нашага жыцця. Гуд тралейбуса, рык вятроў, шып лавы, рып цягніка, цік гадзінніка і г.д. Па відэамагнітафоне наведнікі маглі пабачыць і пачуць тэксты Пазатэлі, прачытаныя самім аўтарам.



Інсталяцыя Катажыны Чэрпак (ЗША) "Жыццё вяртаецца да жывапісу" можа ўспрымацца ў некалькіх прасторавых варыяцыях. У першай — кісларodныя намёты, счэпленыя паміж сабой крапельніцамі, як бы сімвалізуюць небяспеку для вяртання ў творчасць. У другой — сэнс супрацьлеглы. У трэцяй — жывапіс дыхае як чалавек. У чацвёртай... І гэтак да бясконцасці. Фактычна мы бачым пэўнага кшталту вечны рухавік. Між іншым, прыемна сярод загадкавых перапляценняў бачыць шлагбаумы, зебраў, кіпяцільнік, супрацьзачатачную спіраль, бурбалкі...

Рышард Лугоўскі (Польшча) у творы "MEDULLA" ўдала распрацоўвае ўласны філасофскі трактат. Няма сумнення, што сінтэз чалавека і катла выварвае новае мысленне. Таму каля творчых пошукаў спадара Лугоўскага наведнікі ахвотна пацягвалі чырвонае і белае віно. Бо неардынарнае мысленне чамусьці добра спалучаецца з алкаголем.

Выдатна сябе паказалі на выставе нашы суайчыннікі —Людміла Русава, Вольга Сазыкіна, Ігар Саўчанка, Сяргей Бабарыка і Вітольд Ляўчэня.

Так, "Адзінка персанальнага вымярэння" Вольгі Сазыкінай выявіла сувязь тэкстыльнага варштата з масавай літаратурай. Тут можна праводзіць паралелі паміж творчасцю і індустрыялізацыяй мастацтва...

Але цэнтральнай працай, на мой погляд, быў твор, размешчаны на шкле каля сцяны, батарэяў — мастацкія ідэі, спрацыраваныя пры дапамозе сонечнага святла на кавалкі паперы. Напрыклад, адна з іх: "Сонечнае святло, якое не вырашае ўсвядоміць свае сапраўдныя намеры". Такім чынам Ігар Саўчанка сцвярджае, што сонечнае святло — гэта філасофія мастацтва.

Дарэчы, каб экспазіцыя цалкам выяўляла свае задумы... Можна запускаць у залу прыбіральшчыцу з брандспойтам, каб яна амывала вадой усе творы і наведнікаў. Тут быў бы пераход традыцыі ў эксперымент. Нараджэнне перфоманса. Па сутнасці адбылося б ачышчэнне гэтага васьмінога ад старой скуры.

**Зміцер ВОЛКАЎ**

*На здымку:*
*Р.Лугоўскі. "MEDULLA".*

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

**вы далучаеце спонсараў да сваёй справы і па якіх крытэрыях іх адбіраеце?**

— Калі казаць больш дакладна, у нас не спонсары, а партнёры, тыя, хто нас не падводзіць і каго мы ніколі не падводзім. Гэта тычыцца не толькі фінансавання нашых канцэртаў. Ёсць шэраг фірм, якія маюць цікавасць да ўдзелу ў тых ці іншых нашых праектах. Самы просты прыклад — работа ў адным з самых вядомых клубаў Мінска. З самага яго адкрыцця ўсе канцэртныя клубныя праграмы ў ім — наша справа.

**— Гэта значыць, што апошнім часам вы аддаяце перавагу менавіта клубным канцэртам. Чаму?**

— Па-першае, таму, што, напрыклад, гэты клуб мае вельмі добрыя ўмовы, такія, якіх і ў Маскве трэба яшчэ пашукаць, па гуку, па светлавым афармленні. Ды і па ўмовах, якія створаны там для адпачынку.

Па-другое, па фінансавых меркаваннях. Наш вопыт дае нам падставы меркаваць, што цяпер у Беларусі арганізацыя вялікіх канцэртаў сябе не апраўдвае. Існуе своеасаблівая "вілка": калі запросіш пачынаючых выканаўцаў, якія адносна "танныя", — няма ўпэўненасці, што зала будзе запоўнена хаця б напалову. А калі выступаюць сапраўдныя зоркі, іхні ганарар такі, што нават пры стопрацэнтнай запоўненасці не выйдзеш і на "нуль".

**— Прабачце, які "нуль" маецца на ўвазе — з улікам усіх вашых выдаткаў і заработнай платы?**

— Той "нуль", які, дзякуй Богу — "нуль"... І па-трэцяе, клубная культура нам больш цікавая. Клуб дае выканаўцы пэўны ўзровень руху, эмоцый, дынамікі. Часцей за ўсё за гэтым тэрмінам стаіць культура дыскатэк, "дзі-джэеўскіх" праграм, але не толькі. Апошнім часам менавіта на такое выкананне арыентуюцца новыя модныя гурты, напрыклад, "Восток", "Блестящие".

**— Але ж не так даўно ў Мінску вы арганізавалі два канцэрты "А-студио", адзін — у клубе, а другі — у канцэртнай зале Дома афіцэраў.**

— Гэта быў своеасаблівы эксперымент, у выніку якога мы і ўпэўніліся, што наша публіка "не гатовая" цяпер да добрых відовішчаў, што канцэрты з разраду прэстыжных наўрад ці фінансава "закрываюцца".

**— Вы працуеце толькі са сталічнымі пляцоўкамі?**

— Мы спрабавалі працаваць і ў Гомелі, і ў Гродне. Тэхнічная база там ёсць, але зноў-такі па фінансавых магчымасцях арганізоўваць там цікавыя канцэрты складана.

**— Як бы вы ацанілі магчымасці канцэртных пляцовак у Мінску?**

— Большасць залаў у Мінску маюць падобныя магчымасці ў сэнсе ўмяшчальнасці, зручнасці, падрыхтаванасці сцэны. У любым выпадку для добрага канцэрта сцэна заўсёды дапрацоўваецца, дадаецца ці перайначваецца гук і святло — гэта абавязкова. Ёсць праблемы з вялікімі заламі: вельмі дрэнная акустыка ў Палацы спорту — там моцна адбіваецца гук, тое ж самае ў Палацы моладзі на Камсамольскім возеры — вялікія аб'ёмы, мармур і жалеза. Але, як мы ўжо казалі, на цяперашні час вялікія пляцоўкі для нас не надта цікавыя.

**— Ці даводзіцца вам працаваць па дзяржаўных заказах і ці зацікаўленыя вы ў такім супрацоўніцтве?**

— У нашым выпадку гэта было б карысна. На сённяшні дзень гэта супрацоўніцтва мае месца пры падрыхтоўцы рознага кшталту прэзентацый. Гэтую справу мы таксама лічым сваёй, бо шоу бываюць не толькі эстраднымі.

**— Фактар асабістых адносінаў і тут грае ролю?**

— Не трэба думаць, што стаўка на добрыя адносіны — адзіны наш метад. Увогуле галоўнае — добры вынік, бо інакш мы застанемся для партнёраў не болей, чым "прыемнымі дзяўчатамі". Але ж мы — перш за ўсё кампанія, якая прадзюсіруе праграму, і часам — тыя, хто прадстаўляе перад запрошанымі выканаўцамі канцэртную пляцоўку і горад.

**— І краіну?**

— У нас гэтак было з "Агатой Кристи". Так склаліся абставіны, што — няхай гэта гучыць не сціпла — калі б мы асабіста не ўмяшаліся, канцэрта б не адбылося.

*На развітанне я пацікавіўся, які шлях прывёў дзяўчат да іх нязвыклай справы. Высветлілася, што Карына займалася выдавецкай дзейнасцю, мела непасрэднае дачыненне да папулярнага часопіса "Леди престиж". А Вольга скончыла Беларускі універсітэт культуры, дарэчы, яна з падзякай прыпомніла свайго педагога, Валерыя Мароза, між іншым сталага аўтара "Культуры". Так што свет культуры — цесны, але ж месца ў ім павінна хапіць кожнаму,хто мае што да яго дадаць. Як, напрыклад, гэта робіць "Gold Bee", чыё шоу — працягваецца.*

**Ігар КЛОКАЎ**

ЗАМЕСТ КРОПКІ




Фота Генадзя ЖЫНКОВА

Спектакль увогуле атрымаўся вельмі незвычайным. І справа тут не толькі ў тым, што ў лялечным тэатры дзейнічаюць не лялькі, а акцёры (ёсць толькі асобныя элементы тэатра масак і большая, чым у звычайным драматычным тэатры, "гульня" матэрыяльнымі рэчамі). Справа і ў сюжэтнай "абмузычанасці" дзеі (аўтар п'есы і рэжысёр-пастаноўшчык І.Мацкевіч), і, галоўнае, ва ўзроўні рэалізацыі гэтай самай музычнасці, у яе мэтанакіраванасці. У якасці эпіграфа ў праграмцы спектакля дадзены фрагмент успамінаў М.Чэхава аб С.Рахманінаве, які ў свой час параіў акцёру здзейсніць на сцэне пастаноўку з жыцця якога-небудзь вядомага кампазітара: "и пусть он тут же при нас сочинит одну из вещей, хорошо нам знакомых, — увидите, какой будет чудесный эффект!" І усё ж, нягледзячы на тое, што галоўны герой, Моцарт, у асноўным паказаны ў працэсе працы над партытурай ля клавесіна, гэтая пастаноўка — не толькі і не столькі аб стварэнні музыкі. Ды і хто дакладна ведае, як яна там ствараецца на самой справе? Не прыпадабняцца ж да персанажа Расціслава Плята з кінакамедыі "Вясна", які "з боку" робіць высновы аб сутнасці творчасці. У прыватнасці, навуковай: "Сеў, задумаўся, — адкрыў. Галоўнае — задумацца!" І гэта не спектакль-канцэрт, хаця ў ім і існуе каля двух дзесяткаў завершаных у асноўным вакальных музычных нумароў.

Выкарыстаўшы смелую, нават дзёрзкую ідэю абыгрывання, абумоўлівання ўзнікнення папулярных моцартаўскіх мелодый у немузычным "па статусу" тэатры, звярнуўшыся да своеасаблівай "мантажнай" сцэнічнай драматургіі, Ірэна Мацкевіч здолела стварыць цалкам арганічную пастаноўку. Атрымаўся спектакль аб прыгажосці мастацтва, радасці быцця, які яшчэ раз пацвердзіў тэзіс аб тым, што музыка — найбольш эмацыянальны від творчасці. Менавіта "жывая", непасрэдна адноўленая музыка, у "незакансерваваным", без акадэмізаванай вымучанасці гучанні. Яна акунае гледача ў новы, чароўны свет, новую рэальнасць (пазбаўленую такой звычайнай сёння электронна-лазернапсіхадэлічнай відовішчна-гукавой агрэсіі), рэальнасць, магнетычная прыцягальнасць якой відавочна захоўваецца і нейкі час пасля спектакля.

Ключ да пастаноўкі, мяркую, быў знойдзены ў самім шматузроўневым музычным матэрыяле, у выкарыстаных фрагментах з трох опер Моцарта: "Дон Жуан", "Вяселле Фігара" і "Чароўная флейта". Галоўная роля тут належыць, бясспрэчна, "Чароўнай флейце" з яе незвычайнай казачнай эстэтыкай, неверагодным багаццем вобразаў, свабодай іх супастаўлення. Элементы алегарычнасці, сімволікі належаць вобразу мудрага Зараастра, інтанацыі масонскіх спеваў у ягонай партыі (арт. Д. Тэтруашвілі) зусім не адхіляюць у бок дыдактыкі і павучальнасці. Напрыклад "свяшчэнны агонь" у чашы Зараастра аказваецца падсветленай чырвонай анучкай і "разгараецца" ён дзякуючы маніпуляцыям зграбнай ручкі ў чорнай аксамітавай пальчатцы, што высоўваецца з-за кулісы, пафасныя моманты маналога "псуе" маленькая, але надакучлівая хмарка, што імкнецца прыладзіцца то справа то злева ад персанажа, і г.д. А вынікам выкананага "дуэта згоды" паўлюдзей-паўптушак Папагена і Папагены з'яўляецца... бутафорскае стракатае вялізнае яйка, працэс "знясення" якога цнатліва прыкрыты шыкоўнай спаднічкай-веерам гераіні. Але ўсе знаходкі, абыгрыванне сцэнічных сітуацый, дынамічнасць зносінаў герояў з іх аўтарам (а часам — і іх спрэчка), з гледачом не засланяе галоўнага — добрага данясення музыкі. У той ступені, зразумела, у якой гэта было магчыма ў дадзеных абставінах (некаторыя інтанацыйныя хібы, часам — тэмбравая неадпаведнасць класічным узорам былі непазбежныя ў тэатральным вакале). Трэба адзначыць дакладна вызначаны ўзровень дынамічнасці, зайздросную якасць дыкцыі, наяўнасць асаблівага ўнутранага рытму ў большасці выканаўцаў.

Акрамя самога Моцарта (А.Казакоў), Папагена (А.Васько) і Лепарэла (У.Уласаў) у спектаклі ўдзельнічаюць яшчэ 13 персанажаў (іх увасабляюць акцёры Л.Немагай, А.Голуб, С.Цімохіна, Э.Пранскутэ і Дж.Тэтруашвілі). Гэта часам зусім палярныя істоты: злосны юрлівы маўр Манастатас — і інфантыльны прынц Таміна (А.Голуб), раз'юшаная ў сваёй жаночай непрызнанасці Марселіна — і наіўная красуня Цэрліна, а пры гэтым яшчэ — і чароўная Папагена (Э.Пранскутэ). Вельмі прывабныя вобразы стварыў і Дж. Тэтруашвілі — ужо нагаданы Зараастра, а таксама абаяльны і не зусім традыцыйны Дон Жуан, які прымушае ўспомніць, што аднайменная опера Моцарта мае падзагаловак "Dramma giocoso" (г.зн. "вясёлая драма"), а сам герой — першапачаткова ў народным тэатры быў персанажам камедыйным! Рамантычная і нават трагедыйная вобразная афарбоўка — справа далейшых мастацкіх "напластаванняў" (у Дж.Байрана, Лесі Украінкі і г.д.).

Увогуле вобразны вынік спектакля прымушае ўспомніць і аб шэдэўры сусветнага кінамастацтва — "Амадэусе" М.Формана...

Інструментальны квартэт (таксама ў жывым гучанні) — раўнапраўны ўдзельнік спектакля (Н.Артуганава — скрыпка, С.Ісакава — флейта, А.Трыгубкіна — віяланчэль, Л.Чаранок — фартэпіяна), інструментоўку для такога камернага саставу зрабіў П.Кандрусевіч. Адзначым, што ў якасці "уверцюры" і "коды" спектакля выкарыстана "Маленькая начная серэнада", а пачатак сцэнічнага стварэння музыкі Моцартам увасабляецца ў гучанні Allegro з 15-й клавірнай санаты — найярчэйшага ўзору крыштальна чыстага класіцысцкага і класічнага мастацтва. Асаблівасцю пастаноўкі з'яўляецца і часавая, гістарычная дакладнасць: выкарыстаны менавіта познія творы кампазітара, і нават драматызм фрагмента з "Рэквіема" не выглядае тут чужародна, як і "Чароўная флейта", ён ствараўся ў 1791 годзе, апошнім годзе жыцця Моцарта.

**Надзея ЮЎЧАНКА**

Закрыў свой чарговы сезон Дзяржаўны тэатр лялек. Дзве мастацкія падзеі вызначылі існаванне тэатра летась.

На Каляды прыпала прэм'ера доўгачаканай "Снежнай каралевы" А.Ляляўскага, задума якой выношвалася і здзяйснялася некалькі гадоў. Спектакль уразіў экспрэсіяй відовішча і чыстай эстэтыкай сімвалізму. Ён прачытаны не як казка, а як містычная легенда. У ім раптоўна адкрыліся і ўзмацніліся метэрлінкаўскія матывы падарожжа ў краіну Смерці. "Снежная каралева" — спектакль амаль без слоў. На сцэне пануе пластыка рухаў, экспрэсія масак, колераў і выдатнай музычнай драматургіі (мастак А.Фаміна, кампазітар У.Кандрусевіч). Халодны белы кабінет расчыняе сцены-жалюзі ў чорную прастору космасу. Побытавых рэчаў няма. Белая канапа — быццам застыглая хваля ці хрусткі крухмал белага каўняра Каралевы. У гэтую пустую халодную прастору ўрываюцца і ўносяць свой дзікунскі малюнак чырвоныя Тролі...




Згаданую гісторыю можна было б назваць вандраваннем Герды за Каем на той свет без надзеі на вяртанне...

Другой падзеяй стала лабараторыя-майстэрня тэатраў лялек, наладжаная кіраўніцтвам Дзяржаўнага тэатра лялек у Мінску і Міністэрствам культуры. Кожны месяц у будынку кінатэатра "Піянер" адзін дзень "гастраляваў" спектакль з Брэста, Магілёва, Гомеля. Амаль усе лялечныя тэатры Беларусі не толькі сустрэліся з мінскімі гледачамі, але і ўзялі ўдзел у творчых дыскусіях, абмеркаваннях спектакляў сталічнай крытыкай.

"Гастролі" — амаль забытае сёння слова. Больш ужываюцца "фестываль", "выязны спектакль". І таму лабараторыя сапраўды дапамагла лялечнікам асэнсаваць сябе ў пэўным тэатральным працэсе.

Самыя розныя па тэхніцы і стылі спектаклі мы пабачылі ў рамках лабараторыі. Да прыкладу, парадыйную оперу "Чырвоны Каптурык", разыграную марыянеткамі, дзе, скажам, Воўк выглядаў спарахнелым маркізам са звычкамі героя-каханка, — паказаў Магілёўскі тэатр (пастаноўка А.Жугжды). Гратэскавую прыпавесць "Прыхадзень" на французскай мове ў духу "Цуду святога Антонія" Метэрлінка прывёз Гродзенскі тэатр (пастаноўка М.Андрэева). "Дзікіх лебедзяў" Андэрсена ўціснулі ў дэкаратыўную беларускую батлейку маладзечанцы (пастаноўка А.Жугжды). Паспрабавалі спалучыць сумную гісторыю пакінутых Бусляняці і Пудзіла з флёрам акцёрскай грымёрнай лялечнікі з Брэста (пастаноўка З.Нуянзіна). Зграбны, іранічны капуснік у жанры "спяваюць акцёры тэатра лялек" паказалі мінскія лялечнікі ў спектаклі "Гэта ты, Моцарт?!" (пастаноўка І.Мацкевіч).

Можа, самае моцнае ўражанне з узгаданых спектакляў пакінуў "Карлік-Нос" В.Гаўфа (пастаноўка У.Матроса, Гомельскі тэатр). У пастаноўцы адчуваўся подых нямецкага Сярэднявечча. Цудоўна выкананыя планшэтныя лялькі (мастак Н.Баяндзіна), афармленне сцэны з выкарыстаннем дрэва і старых тэларыяў, музыка, — стварылі атмасферу старажытнасці, таямнічасці, казачнасці.

Хочацца назваць некалькі бліскучых акцёрскіх прац са спектакляў лабараторыі. Гэта Т.Гарачава (Варажбітка і Эканомка), якая літаральна прымусіла "ажыць" два кантрастныя лялечныя вобразы ў спектаклі "Карлік-Нос". У яе руках лялька валодала рэльефнай пластыкай, ігрaла паваротам галавы, узмахам рукі, інтанацыяй голасу. Другі вобраз — Шаманка (В.Пражэевай) у спектаклі "Снежная каралева". Актрыса з ненецкай маскай на твары нібы з'яўлялася з-пад зямлі. Нізкі голас, рытуальнае кружэнне-танец, стоп-кадры "мімікі" яе маскі. Яе словы гучалі нібыта прарочы голас самой Зямлі.

Усцешвае, што творчая лабараторыя не спыніла сваю дзейнасць. З новымі творамі беларускіх лялечнікаў мы будзем мець магчымасць пазнаёміцца пасля летніх вакацыяў, увосень.

**Таццяна РАТАБЫЛЬСКАЯ**



К КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА - АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991 года
Заснавальнік — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь
Галоўны рэдактар — Людміла КРУШЫНСКАЯ



Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1,
Тэлефон: (017) 276-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Падпісана ў свет 29.05.97. у 16.00.

Меркаванні аўтара могуць не адлюстроўваць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Фармат А3. Індэкс 63875
Агульны наклад 3446
Замова 3115
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.
М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.